ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года №№87 — 88 (4445 — 4446) 29 кастрычніка 1994 года Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## НГ-іНФАРМ

## ІДЭІ РЭФОРМЫ — У ПРАКТЫКУ

14 кастрычніка ў Баравухскай школе Полацкага раёна адбылося пасяджэнне прэзідыума савета дырэктараў школ Беларусі, на якім абмяркоўвалася стратэгія рэфармавання сістэмы адукацыі. Савет дырэктараў школ выказвае задавальненне, што яго прапановы па пераводу на дзесяцігадовую базавую адукацыю і дванаццацігадовае навучанне ў сярэдняй школе, выказаныя ўпершыню на канферэнцыі дырэктараў школ 22 снежня 1993 года, з'явіліся асновай канцэпцыі рэфармавання.

Разам з тым мы занепакоены магчымымі памылкамі пры рэалізацыі рэформы сістэмы адукацыі, таму робім прапановы, якія дазваляюць пазбегнуць, у некаторай ступені, памылак і паскорыць працэс укаранення ідэй рэформы ў практыку.

1. Неабходна аператыўна стварыць на конкурснай аснове праз педагагічную прэсу часовы творчы калектыў, у якім павінны быць групы для:

— распрацоўкі новых навучальных планаў;

— правядзення інвентарызацыі навучальных праграм і падручнікаў па ўсіх прадметах і стварэнне новых навучальных дапаможнікаў з абавязковым выкладаннем матэрыялу на некалькіх узроўнях складанасці;

— распрацоўкі стандартаў адукацыі;

— прывядзення ў адпаведнасць з новай структурай сістэмы адукацыі нарматыўна-інструктыўных дакументаў;

— распрацоўкі падрабязных часовых рамак усіх этапаў рэфармавання сістэмы адукацыі па гадах і класах пераходу;

— падрыхтоўкі методык эфектыўнага і сучаснага выкладання навучальных дысцыплін.

2. Пры распрацоўцы дакументаў і матэрыялаў неабходна ўсё падпарадкаваць адной з галоўных мэт рэфармавання сістэмы адукацыі — выключыць магчымасць фізічнай і псіхічнай перагрузкі вучняў навучальнымі заняткамі. Заняткі ва ўсіх навучальных установах павінны праводзіцца па пяцідзёнцы

3. Неабходна пралічыць матэрыяльныя і паліграфічныя магчымасці, узгадніць іх з этапамі рэфармавання.

4. Падрыхтаваць перадумовы да канвертуемасці адукацыйных дакументаў з тым, каб паспяхова ўвайсці у міжнародную адукацыйную сістэму.

5. Перагледзець часовае палажэнне аб атэстацыі педработнікаў і распрацаваць новае.

6. Распрацаваць (тэрмінова) нарматывы фінансавання ўстаноў адукацыі.

7. Настойліва дабівацца льготнага падаткаабкладання ўстаноў адукацыі і самых розных структур, якія аказваюць развіццю сістэмы адукацыі фінансавую і матэрыяльную падтрымку.

8. Выдаць адпаведны дакумент, які абавязвае аддзелы адукацыі перавесці ўсе школы на поўную фінансавую самастойнасць.

9. Распрацаваць канцэпцыю будаўніцтва школ, якая б выключыла будаўніцтва школ-гігантаў.

10. Завяршыць працу па вывучэнні нарматываў рабочага часу педагагічных кадраў і ўсіх дапаможных служб устаноў адукацыі.

11. Перайсці на трохузроўневую сістэму кіравання: школа — раяна — міністэрства.

12. Распрацаваць новы штатны расклад для ўстаноў адукацыі.

ПРЭЗІДЫУМ САВЕТА ДЫРЭКТАРАЎ ШКОЛ БЕЛАРУСІ.

Прыемна, што ў час эканамічнай нестабільнасці, калі многія дзіцячыя дашкольныя ўстановы закрываюцца, віцебская абутковая фабрыка "Чырвоны Кастрычнік" пабудавала для дзяцей рабочых і служачых новы дзіцячы сад. Гэта цэлы комплекс сучасных будынкаў, дзе будуць праводзіць дзень 230 дзяцей. Яны змогуць наведваць басейн, ёсць тут спартыўная і музычная залы, добра абсталяваныя гульневыя пакоі і ўтульныя спальні.

НА ЗДЫМКУ:
На гульневай пляцоўцы новага дзіцячага сада ў Віцебску.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.

## ВЕСТКІ

Адкрыць для сябе невядомыя старонкі гісторыі Беларусі атрымалі магчымасць студэнты ВНУ, настаўнікі, вучні старэйшых класаў сярэдніх школ Магілёўшчыны і ўсе тыя, хто цікавіцца мінулым краіны. У Магілёўскім педінстытуце выпушчаны новы навучальны дапаможнік "Старонкі гісторыі Беларусі".

* * *

У Светлагорскім гуманітарным музеі вывучаюць італьянскую мову. Такое яшчэ не практыкуецца ў іншых сярэдніх навучальных установах. Італьянскае пасольства ў Беларусі паабяцала дапамагчы ліцэю ў набыцці падручнікаў, літаратуры, у наладжванні сувязі з адной навучальнай установай Італіі.

* * *

Колькасць студэнтаў Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны папоўнілася групай з Кітая. Напачатку яны будуць вывучаць рускую мову, а затым працягнуць адукацыю па спецыяльнасці.

* * *

Каля паўтары тысячы найменняў навучальнай літаратуры перададзены ў дар беларускім універсітэтам у рамках праграмы, якая ажыццяўляецца федэральным міністэрствам адукацыі і навукі Германіі.

* * *

У Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Мінску адбылася афіцыйная цырымонія перадачы пасольствам ЗША ў Беларусі гэтай ВНУ камплекта відэа-і аўдыёабсталявання, навучальных дапаможнікаў і матэрыялаў на 23 тысячы долараў.

Міхась АНІСЕНКА.

## По родным краі

Нацыянальны банк рыхтуецца да выпуску буйных банкнотаў. Намінал самых буйных грошай пакуль невядомы, а вось дваццацітысячныя купюры неўзабаве з'явяцца. На іх будзе асабісты подпіс старшыні праўлення Нацбанка Станіслава Багданкевіча.

Больш чым 80 дэпутатаў Вярхоўнага Савета падпісалі зварот да Канстытуцыйнага суда, у якім выказваюць сумненне ў канстытуцыйнасці прынятых змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб мясцовым самакіраванні".

У паштовае абарачэнне паступілі дзве стандартныя маркі — "Старажытны герб Гродна" і "Старажытны герб Віцебска". Яны папоўнілі серыю "Гербы гарадоў Беларусі", у якой ужо чатыры паштовыя мініяцюры.

Указам прэзідэнта старшынёй Галоўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў назначаны Дзямчук Мікалай Мікалаевіч.

У апошнія гады колькасць звольненых з НДІ супрацоўнікаў складае трэцюю частку зарэгістраваных у краіне беспрацоўных, а зарплата працуючых — толькі каля васьмідзесяці працэнтаў ад сярэдняй па народнай гаспадарцы, што сведчыць пра падзенне сацыяльнага статуса навукі. Пра гэта гаварылася на пасяджэнні праўлення Беларускай асацыяцыі навуковай і творчай інтэлігенцыі.

На пятнаццаць працэнтаў павысіліся з 22 кастрычніка цэны на хлеб і хлебабулачныя вырабы з пшанічнай мукі. Прычына — павышэнне закупачнай цаны на зерне.

Указам прэзідэнта з 1 лістапада 1994 г. мінімальная заработная плата ўстаноўлена ў памеры 20 тысяч рублёў, а тарыфная стаўка першага разраду — 22 тысячы рублёў.

На маскоўскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД вырашана стварыць Міждзяржаўны эканамічны камітэт. Гэта рашэнне эксперты ацэньваюць як самае значнае дасягненне сустрэчы.

Псіхолагаў для работы ў органах аховы здароўя пачалі рыхтаваць на факультэце педагогікі і псіхалогіі Гродзенскага універсітэта.

Агульная колькасць беспрацоўных па Беларусі за верасень склала 99462 чалавекі.

Паводле папярэдніх падлікаў, на арганізацыю кампаніі па выбарах дэпутатаў у Саветы ўсіх узроўняў спатрэбіцца 69 мільярдаў рублёў.

Да аднаго мільёна аднаразовых шпрыцоў у месяц мае намер выпускаць беларуска-дацкае сумеснае прадпрыемства на базе завода "Электроніка". Цяпер яно выпускае 400 тысяч аднаразовых шпрыцаў для інсуліну і процітуберкулёзных вакцын.

Сёння ў мінскім Доме культуры тэкстыльшчыкаў адбудзецца маладзёжны кірмаш вакансій. У ёй прымуць удзел 30 прадпрыемстваў, арганізацый і камерцыйных структур сталіцы.

## НГ-іНФАРМ

## СЁННЯ І ЗАЎТРА УНІВЕРСІТЭТА

### КАЛЕГІЯ МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ І НАВУКІ АБМЕРКАВАЛА

26 кастрычніка адбылося чарговае пасяджэнне калегіі Міністэрства адукацыі з парадкам дня "Аб стане і перспектывах развіцця універсітэцкай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", на якую былі запрошаны рэктары дзяржаўных і недзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, у падпарадкаванні якіх знаходзяцца ВНУ.

З дакладам выступіла намеснік міністра адукацыі Таццяна Галко.

У прыватнасці, яна адзначыла, што сусветная універсітэцкая традыцыя заўсёды зыходзіла з арыентацыі на высокія маральныя і інтэлектуальныя каштоўнасці. У сучасным гучанні універсітэт — гэта вышэйшая навучальная ўстанова, дзейнасць якой накіравна на развіццё адукацыі, навукі і культуры шляхам правядзення фундаментальных навуковых даследаванняў і навучання на ўсіх узроўнях вышэйшай, паслявышэйшай і дадатковай адукацыі па шырокім спектры прыродазнаўчых, гуманітарных і іншых кірункаў навукі, тэхнікі, культуры.

Вопыт замежных краін, якія здолелі цывілізавана вырашыць многія сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя і культурныя праблемы, сведчыць пра тое, што універсітэцкая адукацыі адыгрывае ў іх жыцці значную ролю.

Да нядаўняга часу забяспечанасць Рэспублікі навучальнымі ўстановамі ўніверсітэцкага тыпу была даволі нізкай. У цяперашні час у Беларусі функцыянуе 19 такіх ВНУ (не лічачы недзяржаўных, якія пакуль што не акрэдытаваны, г.зн. — не прызнаны дзяржавай у гэтым высокім статусе). Такім чынам, 50% ад агульнай колькасці ВНУ — гэта навучальныя ўстановы універсітэцкага тыпу. Асноўная большасць з іх (12) — пераўтвораны ва універсітэты ці акадэміі ў апошнія гады. Складаючы толькі палову ўсіх ВНУ Беларусі, універсітэты і акадэміі маюць больш за 60% студэнтаў дзённай формы навучання, больш за 70% агульнай колькасці выкладчыкаў, асноўную частку дактароў навук, вядуць падрыхтоўку па 145 спецыяльнасцях, што складае 80% ад іх агульнай колькасці. Тым не менш мы не можам сказаць, што яны ўжо ў поўнай меры адпавядаюць сучасным патрабаванням да ВНУ універсітэцкага тыпу.

З мэтай удасканалення дзейнасці як новых так і старых універсітэтаў на працягу апошняга часу была распачата работа па стварэнні новай нарматыўнай базы вышэйшай школы Рэспублікі Беларусь, якая зарыентавана на сучасныя сусветныя тэндэнцыі ў галіне адукацыі, перш за ўсё — на варыятыўнасць тыпаў ВНУ і мадэляў навучання, канцэпцыю нацыянальнага Адраджэння. Вельмі важным з'яўляецца той факт, што зроблены першыя намаганні вызначэння агульных крытэрыяў розных тыпаў вышэйшых навучальных устаноў, пачалі распрацоўвацца адукацыйныя стандарты, уведзены ў дзеянне з 1 верасня 1994 г. новы Пералік спецыяльнасцяў, які зарыентаваны на сучасныя патрабаванні і ў поўнай меры адпавядае запытам універсітэцкай адукацыйнай мадэлі. Пачаўся пераход да шматузроўневай сістэмы вышэйшай адукацыі, якая з'яўляецца атрыбутам менавіта універсітэцкай адукацыі, пэўныя зрухі адбыліся і ў яе змесце. Ён нацэлены на ўзмацненне акадэмічнай накіраванасці навучальнага працэсу, збліжае нацыянальную сістэму вышэйшай адукацыі з сусветнай, адначасова захоўваючы каштоўныя айчынныя здабыткі.

Але мы разумеем, што для таго, каб ВНУ імкнулася забяспечыць сапраўдны універсітэцкі ўзровень адукацыі, працаваць у адпаведнасці з ім, трэба знайсці важкія стымулы (напрыклад, прыярытэтнае фінансаванне, у тым ліку — універсітэцкай навукі, ільготныя суадносіны паміж колькасцю выкладчыкаў і студэнтаў, вышэйшы ўзровень зарплаты выкладчыкаў і г.д.). Патрабуецца больш дасканалы і больш падрабязны нарматыўны дакумент, у адрозненне ад дзеючага Палажэння аб ВНУ, падкрэсліла дакладчыца.

Такім дакументам можа стаць новае Палажэнне аб вышэйшай навучальнай установе, праект якога прайшоў абмеркаванне ў ВНУ і ведамасных упраўленнях.

Якія ж яго раздзелы аказаліся на думку супрацоўнікаў ВНУ найбольш супярэчлівымі, выклікалі найбольшую колькасць заўваг і прапаноў?

Зразумела, што гэта перш за ўсё раздзел, зусім новы для нас, які прысвечаны крытэрыям вышэйшых навучальных устаноў рознага ўзроўню: 1) Чым адрозніваюцца профільныя універсітэты і акадэміі? 2) Ці павінна быць вызначана агульная колькасць студэнтаў, каб ВНУ магла лічыцца ўстановай універсітэцкага тыпу?;

Ці можам мы наяўнасць дактароў навук на 100 студэнтаў разглядаць у адпаведнасці з замежнымі (ці хаця б расійскімі) стандартамі?

Якія памеры камплектавання бібліятэчнага фонду, якая матэрыяльная база, нормы забеспячэння студэнтаў лабараторнымі плошчамі, інтэрнатамі, аздараўленчай базай і фондамі сацкультбыту могуць лічыцца адпаведнымі крытэрыямі для універсітэцкіх навучальных устаноў?

Але яго немагчыма вызначыць без вырашэння праблемы стандартаў, у тым ліку: суадносін паміж фундаментальнымі і спецыяльнымі дысцыплінамі; узроўню гуманітарнай падрыхтоўкі; патрабаванняў да адукацыйнага працэсу з яго непарыўнай сувяззю з навуковымі даследаваннямі; мадэляў кваліфікаваных характарыстык; тэрмінаў навучання (відавочна, што яны павінны быць не меней за пяць гадоў).

Ва ўмовах, калі ўскладніліся працэсы перспектыўнага планавання структуры падрыхтоўкі кадраў і змяніліся падыходы да іх размеркавання, паўстае пытанне як аб большай свабодзе універсітэтаў у выбары спецыяльнасцяў і спецыялізацый, так і ў іх адказнасці за працаўладкаванне выпускнікоў.

Сферай дзейнасці, якая ў найбольшай ступені вызначае спецыфіку універсітэцкага тыпу адукацыі, з'яўляецца навука. Цесная інтэграцыя навукі і навучальнага працэсу дазваляе ажыццявіць прамую трансляцыю дасягненняў навукі ў практыку, захаваць і развіць навуковыя школы, бесперапынна ўзнаўляць працэс генерацыі навуковых ідэй, фарміраваць творчыя здольнасці асобы. Таму навуковыя школы павінны стаць не проста атрыбутам, але і стрыжнем жыццядзейнасці універсітэтаў.

Адным з найменш ясных пытанняў аб шляхах развіцця універсітэцкай адукацыі з'яўляецца вызначэнне ролі і месца нацыянальнага кампанента.

Роля універсітэтаў у працэсе нацыянальнага Адраджэння незаменная, бо выпускнік універсітэта — гэта, ў першую чаргу, носьбіт культуры.

У сферы засваення культуры універсітэцкія выкладчыкі і студэнты павінны ўзаемадзейнічаць на гуманістычнай аснове, без навязвання студэнту светапоглядных арыентацый, але фарміруючы іх на аснове навуковых падыходаў з прымяненнем крытычнай навуковай метадалогіі.

Адным з пытанняў, якія тычацца праблемы нацыянальнага універсітэта, з'яўляецца пераход навучальнага працэсу на беларускую мову, без чаго немагчыма пераўтварэнне універсітэтаў у сапраўдныя цэнтры нацыянальнай культуры. Пакуль што толькі БДПУ здольны з 1 верасня забяспечыць 100% выкладання ўсіх прадметаў на першых курсах на беларускай мове, Гродзенскі універсітэт — 67% (на педплынях — 85%), лінгвістычны — усяго 26%, Гомельскі — 70%, БДУ — 95% на педплынях, 15% — на астатніх патоках і факультэтах (лічбы прыводзяцца па даных ВНУ).

Значнае месца ў далейшым лёсе універсітэцкай адукацыі займае вызначэнне статусу рэгіянальнага універсітэта. Нацыянальна-культурнае адраджэнне універсітэта абумоўлена моцнымі сувязямі ВНУ і грамадства, культурнымі і сацыяльнымі запатрабаваннямі рэгіёна, нацыянальнымі і мясцовымі традыцыямі. Узнікненне класічных універсітэтаў у Гародні і Полацку не з'яўляецца данінай модзе, бо гістарычная памяць і карані гэтых мясцін моцныя і трывалыя, як нідзе больш. Мы лічым, што трэба пайсці па шляху прадастаўлення такім універсітэтам большых правоў пры вырашэнні праблем, звязаных з развіццём аукацыі і культуры ў рэгіёне, пераўтварэння іх у каардынацыйныя цэнтры па арганізацыі і рэалізацыі бесперпыннай адукацыі. Такая форма універсітэцкай адукацыі дазволіла б больш эфектыўна выкарыстоўваць эканамічныя (фінансавыя) магчымасці рэгіёнаў, стварала б умовы для больш цеснага супрацоўніцтва паміж мясцовай уладай і універсітэтамі на карысць грамадству.

Да ліку пытанняў, якія часта ставяцца акадэмічнай грамадскасцю, адносіцца пытанне аб універсітэцкай аўтаноміі. На яе накіраваны думкі перш за ўсё сталічных універсітэтаў (БДУ, БДЭУ, БДПУ), дзе гэтую ідэю падтрымлівае 57% апытаных сацыёлагамі асоб.

На думку прыхільнікаў гэтай ідэі, для таго, каб універсітэты сталі на ўзровень сучасных патрабаванняў, трэба надаць ім больш важкі сацыяльны статус, заканадаўча яго замацаваць, вызначыць межы аўтаноміі, у прыватнасці, такіх яе аспектаў, як самакіраванне універсітэта, яго камерцыйная дзейнасць, правы ў вызначэнні накірункаў падрыхтоўкі кадраў, тэрмінаў навучання, зацвярджэнне спецыяльнасцяў і спецыялізацый, навучальных планаў, праграм і г.д. Міністэрства адукацыі паступова адмаўляецца ад дробязнай апекі, прынцыпова падтрымлівае гэтыя намаганні і пакідае за сабой права на вызначэнне стратэгічнага кірунку дзейнасці універсітэтаў, ажыццяўленне кантролю за размеркаваннем і выкарыстаннем дзяржаўных сродкаў і ўзроўнем якасці адукацыйных праграм, іх адпаведнасці адукацыйным стандартам, падтрымкі таленавітых навукоўцаў, выкладчыкаў.

Шматлікія пытанні пры вырашэнні канкрэтных патрэб універсітэта ўтыкаюцца ў ведамасную разрозненасць. Прыналежнасць часткі ВНУ універсітэцкага тыпу да міністэрстваў і ведамстваў ускладняе правядзенне адзінай стратэгіі універсітэцкай адукацыі, распрацоўкі і рэалізацыі агульнанацыянальных яе стандартаў.

Міністэрства адукацыі плануе на працягу бягучага навучальнага года прапрацаваць і ў выніку, спадзяёмся, станоўча вырашыць пытанне аб аб'яднанні ўсіх ВНУ пад сваім кіраўніцтвам.

* * *

Меркаванняў па дакладзе Т.Галко і па праекце новага Палажэння аб ВНУ было шмат. Вось некаторыя з іх.

Мы сёння больш ведаем пра Гарвардскі універсітэт, чым пра багаты традыцыямі маскоўскі. Іншымі словамі, у інфармацыйнай прасторы чамусьці не знаходзіцца месца суседзям — універсітэтам Расіі і Украіны.

Навучальныя планы ёсць, а адукацыйных стандартаў няма. Ці не атрымаецца так, што стандарты будуць падганяцца пад планы?

Дэкларуецца пашырэнне самастойнасці, а на самай справе назіраецца тэндэнцыя ўсё большай падпарадкаванасці Міністэрству адукацыі. Хаця, праўда, дырэктар Інстытута прафесійнай адукацыі А.Шкляр даслоўна выказаўся зусім у адваротным сэнсе: "Нашы рэктары маюць больш правоў, чым любы рэктар у Заходняй Еўропе. Тое, што там дазваляецца толькі Законам, мы дазваляем інструкцыяй".

Ці варта спяшацца міністэрству забіраць усе ведамасныя ВНУ пад свой "дах", можа даць ім усё ж магчымасць папрацаваць пры новым Палажэнні і праявіць сябе, а тады ўжо, дыферэнцавана, ажыццяўляць далучэнне.

Выбіраць ці назначаць рэктара? Відаць, найлепш, калі спачатку рэктара выбера вучоная рада ўстановы, а права міністэрства — зацвярджаць або не.

Была і такая думка, якая, здаецца, знайшла падтрымку большасці. Не справа універсітэтаў і наогул устаноў адукацыі займацца працаўладкаваннем выпускнікоў. Іх задача — падрыхтаваць канкурэнтаздольных на рынку працы спецыялістаў.

Нельга пакуль назваць роўнымі адносіны кіраўнікоў дзяржаўных ВНУ да сваіх калег з недзяржаўных навучальных устаноў. Асноўная прэтэнзія: высокая заработная плата, а значыць і магчымасць "пераманьвання" да сябе высокакваліфікаваных выкладчыкаў. Па меркаванні А.Шкляра, калі недзяржаўныя, камерцыйныя ВНУ прэтэндуюць на частковую фінансавую падтрымку дзяржавы, то яны павінны рыхтаваць або вострадэфіцытных спецыялістаў, або тых, якія дзяржаўныя ВНУ наогул не выпускаюць.

І канешне ж, не абышлі выступоўцы балючую тэму сённяшняга бядотнага існавання ВНУ. Сыйшліся на тым, што калі дзяржава не зменіць сваіх адносін да вышэйшай школы, праз два-тры гады стане пытанне наогул пра яе існаванне. Нават тое нямногае, што сёння зарабляюць ВНУ самі, пераважнаю часткаю ўплывае ў выглядзе непамерных падаткаў.

І як вывад: патрэбна калі не поўнае вызваленне ад падаткаабкладання, дык хаця б ільготны яго рэжым. Толькі тады ў пэўнай меры можна будзе гаварыць пра перспектыву вышэйшай адукацыі на Беларусі.

Па абмеркаваным пытанні прынята адпаведная пастанова.

ПРАБЛЕМЫ ПЕДАГОГІКІ

## Пясочныя замкі прадукцыйнай працы

Пачынаючы з сярэдзіны васьмідзесятых гадоў, у педагогіцы пад прадукцыйнай працай вучняў усё часцей пачалі разумець не толькі выраб таварнай прадукцыі, але і працу па аказанні розных паслуг насельніцтву пры наяўнасці плана, нормы, аплаты і іншых эканамічных паказчыкаў.

І гэта не выпадкова. Многія педагогі такім чынам спрабавалі хаця б тэарэтычна палегчыць вырашэнне звышскладанай праблемы, якую паставіла цяпер ужо сумна вядомая рэформа агульнаадукацыйнай і прафесійнай школы ў 1984 годзе. У адпаведнасці з яе ўстаноўкамі прызнавалася неабходным "ажыццяўляць абавязковы ўдзел школьнікаў ў грамадска карыснай, прадукцыйнай працы". Для гэтага адводзіўся спецыяльны час у навучальным плане, а аднаму з педагогаў школы за арганізацыю такой работы ўводзілася даплата.

Палажэнне аб арганізацыі грамадска карыснай, прадукцыйнай працы вучняў агульнаадукацыйных школ (1985 г.) аб'яўляла апошнюю "найважнейшым сродкам камуністычнага выхавання і ўсебаковага развіцця школьнікаў". Згодна з гэтай дырэктывай, прадукцыйная праца заклікана была вырашаць шэраг навучальна-выхаваўчых задач,у тым ліку і наступныя.

У галіне выхавання — усім вядомае фарміраванне ўсвядомленай патрэбнасці ў працы, клапатлівых і ашчадных адносін да грамадскага здабытку і роднай прыроды; выхаванне ў духу калектывізму, працоўнай і вытворчай дысцыпліны; эканамічнае выхаванне і прафарыентацыя на масавыя рабочыя прафесіі.

Задачы навучання ў працэсе прадукцыйнай працы вызначалі азнаямленне на практыцы з асновамі сучаснай вытворчасці, а таксама замацаванне ведаў, уменняў і навыкаў, атрыманых на самых розных уроках у школе.

Не будзем спыняцца тут на ацэнках педагагічнай эфектыўнасці прадукцыйнай працы вучняў у перыяд так званага паскарэння і перабудовы. Паглядзім лепш, як рэалізуюцца яе задачы ў цяперашніх умовах пераходу да новых грамадска-эканамічных адносін. Ці не ўступаюць яны ў супярэчнасць з акаляючай нас рэчаіснасцю? Бо, як гаварыў А.С.Макаранка, выхаванне ёсць працэс сацыяльны ў самым шырокім сэнсе, ён здзяйсняецца не толькі ў класе, а літаральна на кожным метры нашай зямлі. І далей: "...праца без адукацыі, без палітычнага і грамадскага выхавання, што ідуць побач, не прыносіць выхаваўчай карысці, аказваецца нейтральным працэсам. Праца як выхаваўчы сродак магчыма толькі як частка агульнай сістэмы".

Якое ж месца займае праца ў нашай сённяшняй грамадска-палітычнай сістэме? Якое, услед за гэтым, выхаваўчае ўздзеянне адчувае сённяшні школьнік "на кожным метры нашай зямлі" за межамі школы?

Не трэба, думаю, даказваць, што за апошні час культ працоўнага спосабу жыцця ў нашым грамадстве атрымаў мацнейшую дэвальвацыю, як, зрэшты, і іншыя, звыклыя для нас, каштоўнасці.

Возьмем, напрыклад, Асноўны Закон нашай дзяржавы. Калі раней, у Канстытуцыі БССР, грамадска карысная праца хаця б дэкларавалася, бо быццам бы "вызначала становішча чалавека ў грамадстве" (Арт. 14), а за дармаедства пагражаў адпаведны артыкул крымінальнага кодэкса, то ў нядаўна прынятай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь праца прызнаецца ўсяго толькі "найбольш дастойным спосабам самаўсталявання чалавека" (Арт. 41). Гэта значыць, па сутнасці справы, афіцыйна прызнаюцца легітымнымі рознага роду непрацоўныя спосабы самаўсталявання асобы ў грамадстве. Але самае сумнае і нават крыўднае заключаецца ў тым, што ўсякія псеўдапрацоўныя, а часам яўна крымінальныя спосабы абагачэння, паставілі сёння сумленнага працаўніка ў становішча, якое ніяк не адпавядае агульначалавечым нормам маралі.

А мы гаворым аб фарміраванні ў школе ўсвядомленай патрэбнасці ў працы, аб выхаванні паважлівых адносін да людзей працы, ашчаднага стаўлення да грамадскага здабытку і г. д.

Мы гаворым, а натоўпы моладзі з хатулямі і торбамі ўслед за дарослымі, а то і наперадзе іх, бяруць на абардаж усе віды транспарту у бліжняе і далёкае замежжа. Абыходзячы таможні, хапаюць прыбытак з розніцы цэн на тавары — самаўсталёўваюцца! Мы гаворым, а натоўпы запрудзілі ўсе праходы на рынках, прапануючы напаўголасу: "Даляры, маркі, расійскія рублі...". Непрыкметна прыкідваюць на мікракалькулятарах розніцу курсаў валют, свае даходы — самаўсталёўваюцца! Неадабральныя адносіны да такіх дзялкоў выкліканы зусім не зайздрасцю, як некаторыя думаюць. Няма чаму тут зайздросціць. Няхай робяць свой бізнес і камерсанты, і мянялы, і іншыя прадпрымальнікі — самі ж часам карыстаемся іх паслугамі з-за непаваротлівасці дзяржавы. Абурае іншае. Чаму адны павінны плаціць падаткі са свайго заробку, а другія не? А калі яны таксама плоцяць, то каму? Дзе сацыяльная справядлівасць?

Не будзем прыводзіць іншых падобных прыкладаў, імі ж поўнае наша сённяшняе жыццё і аб іх шмат паведамляюць сродкі масавай інфармацыі. Заўважым толькі, што гэта не нейкія "дваццацігадовыя ахметы, якія невядома чым займаюцца цэлымі днямі і раз'язджаюць на шасцісотым "мерседэсе" па Маскве" (Известия, 23 красавіка 1994 г.). Сярод гэтай моладзі нямала старшакласнікаў, нашых вучняў. І вывад тут можа быць толькі адзін. Сённяшнія вынікі школьнага выхавання патрэбнасці ў добрасумленнай працы і павазе да людзей такой працы — гэта пясочныя замкі, пабудаваныя рукамі дзяцей на мнагалюдных пляжах. Сёння яны ёсць, а да раніцы ўжо растаптаны і змыты марской стыхіяй маральна-прававой дэзарыентацыі.

Шмат хто з педагогаў ускладвае на прадукцыйную працу надзеі, звязаныя з эканамічным выхаваннем школьнікаў. Гэтая праблема, дарэчы, закраналася і на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Навучэнская моладзь і рынак", якая прайшла ў Брэсце пазалеташняй восенню. Многія, хто выступіў там, сцвярджалі, што прадукцыйная праца вучняў з'яўляецца важным фактарам фарміравання сучаснага эканамічнага мыслення і адпаведных паводзін школьнікаў. Быццам бы яна (праца) садзейнічае развіццю значных якасцяў асобы: беражлівасці, эканомнасці, адказнасці, прадпрымальнасці і г. д. Мажліва, гэта і так, але пры адной умове — эканамічнай эфектыўнасці прадукцыйнай працы, пастаянным пошуку шляхоў яе павышэння. Гэта значыць, што вучні мусяць

(Працяг на 2-й стар.).



# АЙЧЫНА

"Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають яны своя; птицы, летающие по воздуху, ведають гнёзда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чуют вири своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають".

Ф.Скарына.

№1 АСВЕТНІЦКІ ДАДАТАК ДА "НАСТАЎНІЦКАЙ ГАЗЕТЫ"



ЯНКА КУПАЛА

## БОЛЬШ САМАЧЫННАСЦІ

ЦІКАВЫЯ людзі мы — беларусы!

Трэба прызнацца, што якое б ліха навакол нас і з намі ні рабілася, якіх бы мы ні перажывалі нягод і крыўд — мы гэтага як бы не бачым, а калі бачым, то ліха церпім ды чакаем, што вось нехта прыйдзе і гэта нашае ліха пабярэ з сабою.

І праўда, вечна хто-небудзь і як-небудзь, а прыходзіў і намі апекваўся, хоць нашага ліха і не забіраў.

Быў маскоўскі цар, былі ў нас пасланыя ім усялякія чыны: земскі, вураднік, стражнік. Усе гэтыя чыны намі "апекваліся", а мы шчыра служылі ім, як нявольнікі, ды, уздыхаючы і зацiскаючы кулакі, стараліся сябе ўгаварыць, што так і трэба, каб хтось панаваў, а часта казалі, што гэта так Бог даў. А самі ж мы і пальцам не кіўнулі, каб гэтым сваім апекунам паказаць іх належнае месца.

Але рэвалюцыя змяла ў сваім ходзе цара, панясліся ў свет новыя воклікі будавання новага незалежнага жыцця ўсім народам. А мы як бы нішто і ні ў чым. Пасля царскіх чыноў прыйшлі бальшавіцкія чыны не горш сваіх папярэднікаў, прыйшлі і павялі сваю гаспадарку ў нас, а мы глядзелі і чакалі, што нехта прыйдзе ды бальшавікоў прагоніць. І прычакалі.

Прыйшлі немцы, бальшавікі ўцяклі, мы асталіся. Немец гаспадарыў, як сам хацеў, над намі, над нашым дабром — не горай нават ад царскіх і бальшавіцкіх гаспадароў, а мы што рабілі? Мы сядзелі і чакалі, злажыўшы рукі, і чакалі нейкага цуду, які з'явіцца і забярэ нашае ліха. І дачакалі...

Прыйшлі зноў бальшавікі, а немцы ўцяклі, толькі мы сядзім на месцы. Бальшавікі навялі свае парадкі і гаспадарку, нягледзячы на тое, ці смачна нам гэта, ці не смачна. Пайшлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г.д. А ў рэзультаце што ж? Пастаўленыя намі (як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое разводзіць, што нам цяжка было дыхаць. І мы стагналі, уздыхалі і чакалі.

Прыйшлі палякі, уцяклі саветы, камітэты і чразвычайка, а мы зноў сабе сядзім і чакаем. Праўда, мы, як гаспадары гэтай зямлі, мусім сядзець на ёй. Але як мы гаспадарым на ёй? Ці не час ужо пакінуць благую прывычку сядзець і сядзець, чакаць і чакаць?..

Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі для сябе.

Не, браты, гэтакім ладам мы далёка не заедзем. Час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакалення! Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?"

К такому запытанню трэба нам быць гатовымі. Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. А які ж мы дадзім адказ, калі мы цяпер на другіх гэты адказ ускладаем?

Дык больш самачыннасці, больш смеласці к будаванню свайго новага незалежнага жыцця.

1919 г.

## Мы не пыл, што разносіцца ветрам. Нам ёсць чым ганарыцца: у нас вялікая гераічная гісторыя, найбагацейшая духоўная спадчына, працавіты, мужны і таленавіты народ. У нас свая дзяржава ў цэнтры Еўропы

Наша Айчына — Беларусь — тры гады таму пачала выбірацца на бальшак рэальнай дзяржаўнай незалежнасці. Цяжкі і складаны гэты шлях яшчэ больш ускладняе эканамічны крызіс, падзенне жыццёвага ўзроўню людзей. І ўсё ж беларуская дзяржава пакрысе пераадольвае наканаваныя ёй выпрабаванні, і, несумненна, неўзабаве мы ўбачым святло ў канцы тунеля. Упэўненасць у гэтым дае не толькі тое, што "Беларусь на куце ў хаце сваёй села", але і тое, што ўсё больш і больш людзей разумее: гісторыю назад не павернеш; як бы ні мяняліся палітычныя і жыццёвыя ўклады, ёсць вечная святыня, якая яднае народ, надае яму моц — гэта вольная Айчына.

Пачатак адраджэння беларускай самасвядомасці абнадзейвае нас, мацуе наш дух: недалёкі той час, калі Рэспубліка Беларусь, нарэшце, зойме "свой пачэсны пасад між народамі". Паглядзімо на карту Еўропы: наша краіна па тэрыторыі большая чым Балгарыя, Чэхія, Славакія, чым Венгрыя, Грэцыя і Партугалія і большая чым Галандыя, Бельгія, Данія і Люксембург разам узятыя. Дык хіба мы спустадомкі, ці няўломкі якія, хіба абдзелены розумам і здольнасцямі, і не зможам пабудаваць свой багаты дзяржаўны дом?! Такі дом, каб у ім шчасліва жылося ўсім грамадзянам?!

Зможам. Пабудуем. Не на пустцы ж пачынаем.

У нашай Айчыны вялікая гераічная гісторыя.

Наш народ даў свету многа славутых імёнаў сваіх сыноў і дачок.

Нам засталіся ў спадчыну ад продкаў найбагацейшыя духоўныя скарбы.

Нам ёсць чым ганарыцца, нам ёсць што адраджаць.

Таму наша быццё мае ясны сэнс: служыць сваёй беларускай Айчыне.

І служэнне гэтае будзе больш усвядомленым і плённым, калі мы паглыбім веды аб мінулым і сучасным роднага краю, аб яго героях, мысліцелях, вялікіх майстрах, аб яго духоўных і матэрыяльных каштоўнасцях. Калі мы будзем абуджаць цікавасць да даўніны і сучаснасці Беларусі ў сваіх дзяцей, у новых пакаленняў. А гэта значыць — выхоўваюць ў іх святое пачуцце — любоў да маці-Айчыны.

### Думы настаўніка

## НАШЫ ПРОДКІ БЫЛІ ЗДОЛЬНЫЯ НЕ ТОЛЬКІ ПРАЦАВАЦЬ НА ЗЯМЛІ

Кожны народ валодае культурай, якой уласцівы свае адметныя рысы і карані якой знаходзяцца ў далёкім гістарычным мінулым. У мяне, як фізіка, узнікае пытанне: а дзе карані беларускай фізічнай навукі, бо без іх яна не стане элементам беларускай культуры? Няўжо толькі дзякуючы Расіі стала развівацца фізіка на Беларусі, а ў нас саміх ніколі не было ні вучоных-фізікаў, ні значных адкрыццяў у гэтай галіне?..

Сапраўды, калі прагледзець адпаведную літаратуру, то часцей за ўсё можна сустрэць наступны адказ: "Да рэвалюцыі ў Беларусі не было сваіх навуковых цэнтраў. Фізіка і тэхнічныя навукі пачалі развівацца толькі пасля ўтварэння БССР, калі ў Мінску ў 1921 годзе быў адкрыты Беларускі ўніверсітэт. Яшчэ ў 1953 годзе ў рэспубліцы не было ніводнага доктара фізіка-матэматычных навук..." Некалькі кароткіх радкоў, да якіх мы так прывыклі за сваё жыццё і якія, нібы вострым нажом, адсякаюць нас ад фізічнай спадчыны нашага народа. Вось так, не было і кропка. Ды толькі чалавек — істота цікаўная, а тым болей да таго, што звязана з мінулым. Калі мы зазірнем у даўнія часы Беларусі з дапамогаю кніг па гісторыі, то зможам знайсці некаторыя адзінкавыя, разрозненыя факты, пасля ўважлівага разгляду якіх выяўляюцца больш-менш выразныя контуры стану фізікі і тэхнікі ў тыя часы: "... У 40-х гадах XVI ст. у Вільні працавала вядомая ў навакольных краінах гарматня, якая магла выдаць па 18 гармат у дзень... У 1579 годзе ў Вільні пачала дзейнічаць Езуіцкая Акадэмія — першая ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве вышэйшая навучальная ўстанова, дзе выкладалі знакамітыя вучоныя мужы з усяе Еўропы... Казімір Семяновіч (каля 1600 — пасля 1651 гг.) — ураджэнец Беларусі. Вывучаў спосаб стварэння шматступеньчатых ракет, прыдумаў іх дадатковыя рухавікі, стабілізатары. Тым самым ён з'явіўся папярэднікам Цыялкоўскага і Каралёва... Марцін Пачобут-Адляніцкі (1728 — 1808) — вучоны-прыродазнаўца. Вывучаў планету Меркурый, адкрыў невядомае сузор'е..." (З кнігі Лойкі А.П. "Гісторыя Беларусі"), "... першая айчынная вылічальная машына была выраблена, як сведчыць надпіс, зроблены на ёй, "Еўнай Якабсанам, гадзіннікавым майстрам і механікам у горадзе Нясвіжы ў Літве, Мінскае ваяводства". Гэта адбылося ў другой палове XVIII стагоддзя, не пазней 1770 года. На жаль, біяграфічных звестак пра майстра Якабсана да нас не дайшло, мяркуецца, што ён быў адным з рамеснікаў, якіх сабраў у Нясвіж Міхаіл Радзівіл..." (З кнігі Грамко М.І. "Уводзіны ў краіну ЭВМ").

Аналіз ужо гэтай невялічкай інфармацыі нараджае вялікую колькасць пытанняў (аб тэхнічных прыстасаваннях, без якіх немагчыма адліць гармату; аб прозвішчах вучоных, якія выкладалі ў Акадэміі, аб іх вучнях, чым яны сталі знакамітыя; аб аптычных прыладах Адляніцкага і г.д.) і адначасова дазваляе зрабіць вывад аб тым, што нашы продкі былі здольныя не толькі працаваць на зямлі, складаць казкі, песні ды танцаваць, але і рабіць значныя адкрыцці ў галіне дакладных навук. А існаванне ў XVI стагоддзі Акадэміі начыста абвяргае міф аб тым, што на Беларусі не было навуковых цэнтраў. Была навука і ў тыя часы, былі вучоныя і іх паслядоўнікі, былі нашы беларускія кулібіны. Проста забыліся аб усім гэтым нашчадкі, а можа прымусілі іх забыць?...

Патрэбна шукаць, павялічваць колькасць інфармацыі, сістэматызаваць яе, удакладняць звесткі аб вучоных-прыродазнаўцах і іх адкрыццях. Дапамагайце ж, гісторыкі, бо без вас гісторыю беларускай фізікі нам не аднавіць, а яна вельмі патрэбна ў нашай працы. Для чаго? Ды пра гэта ведае кожны настаўнік: гістарычныя звесткі ўключаюцца ў агляды ўводнага і абагульняючага характару; выкарыстоўваюцца ў якасці задач гістарычнага зместу, кароткіх інфармацыйных звестак; паказваюцца на ўроку элементы, дэталі старадаўніх механізмаў; без гістарычных звестак не абыходзяцца канферэнцыі ці тэматычныя вечары, прысвечаныя дзейнасці знакамітых вучоных або асабліва важнаму перыяду развіцця навукі.

А колькі яшчэ ёсць недаследаваных напрамкаў у прымяненні гістарызмаў. Развіццё навукі дае штуршок развіццю краіны. Перамогі ў войнах адбываюцца часта з-за тэхнічных пераваг. Нават прадметы дамашняга ўжытку нясуць на сабе адбітак тэхнічнага ўзроўню грамадства. Ці многа мы ведаем пра ўсё гэта?.. Ёсць і больш цікавыя напрамкі. Прывяду адзін прыклад з практыкі. Неяк, расказваючы аб развіцці ракетнай тэхнікі, я ўпамянуў прозвішча вядомага фізіка, матэматыка, хіміка, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, які нарадзіўся ў Беларусі, але з'яўляецца грамадзянінам ЗША, Барыса Кіта, прымаўшага ўдзел у распрацоўцы стратэгічных міжкантынентальных сістэм "Навахa", праектаў "Апалон", "Шатл". І раптам завязалася спрэчка: ці можна лічыць Барыса Кіта фізікам-беларусам? Чалавек жа займаўся стварэннем смертаноснай зброі, якую ў свой час планавалася прымяніць і супраць нас, жыхароў Беларусі. Адначасова былі ўзняты вельмі складаныя і цяжкія пытанні: абавязак вучонага і абавязак чалавека; непрызнаны геній у сябе на радзіме ці прызнанне на чужыне; паняцці Радзімы, Айчыны, што, згадзіцеся, даволі рэдка сустракаецца на ўроку фізікі, і ніколі не сустрэнецца, калі не звяртацца да гістарычных прыкладаў.

Без праўдзівага апісання гісторыі беларускай фізікі ад сівой мінуўшчыны да нашага часу і прымянення яго на ўроках, выкладанне нашага прадмета як у школе, так і ў ВНУ будзе пазбаўленым духоўнасці, усечаным, манкуртаўскім. Можа, з-за таго мы і маем зараз такое жыццё, што навучалі асновам дакладных навук і іх прымяненню, не абапіраючыся на агульначалавечыя каштоўнасці, ігнаруючы пачуццё нацыянальнай годнасці.

Мне здаецца, у гэтым ёсць доля ісціны...

Уладзімір ЗДАНОВІЧ,
настаўнік фізікі сярэдняй школы
№ 1 Драгічына.

Значэнне нацыянальнай мовы і культуры выходзіць сёння за межы навуковых і бытавых спрэчак. Гэта адначасова і педагагічная, і палітычная, і агульнаадукацыйная праблема. З гэтай нагоды яшчэ у другой палове XIX стагоддзя К.Д. Ушынскі пісаў: "Мы поўнасцю перакананы, што дрэнны стан нашых фінансаў, няўдачы нашых вялікіх прамысловых прадпрыемстваў, правалы нашых адміністрацыйных пачынанняў, перавозка цяжару гужам побач з чыгункай, нашы непраходныя мясцовыя дарогі, нашы абясцэненыя акцыі, знаходжанне адказных спраў у руках непісьменных невукаў і бадзянне вучоных тэхнікаў без усякай справы, бязглуздыя фантазіі нашай моладзі і не менш бязглуздыя страхі, якімі так зручна карыстаюцца людзі, што ловяць рыбу ў каламутнай вадзе, — усе гэтыя і іншыя хваробы, што з'ядаюць нас, вельмі залежаць ад няведання намі нашай Айчыны".

Васіль ПРОТЧАНКА. Роднае слова — крыніца развіцця асобы, нацыянальнай культуры і духоўнасці народа.

За ўсім яго жыццём стаялі здзяйсненні сусветнага значэння. Нават калі на некаторы час яму і ягоным справам было наканавана забыццё, то ўсё ж намаганнямі грамадскасці гадоў дзесяць таму веліч ягоных спраў прарвалася праз заслону часу, нагадваючы аб сваёй выключнасці і неардынарнасці. Ён з'явіўся першаадкрывальнікам новых навуковых накірункаў на мяжы розных навук, заваяваў прыхільнасць навуковай думкі Расіі і Заходняй Еўропы і з гонарам увайшоў у яе высокі храм.

Уладзімір КІСЯЛЁЎ. Наш сучаснік Якуб Наркевіч-Ёдка.

Так, неабходна ісці ўслед за часам, ведаць асноўныя тэндэнцыі развіцця сусветнай культуры, але ўступаць у дыялог з ёю мажліва не з халуйскай псіхалогіяй, а з псіхалогіяй раўнапраўнага партнёрства, пры гэтым смела абапіраючыся на шматвяковыя традыцыі песеннай культуры свайго народа.

Чаму гэта не адбываецца ўжо сёння? Толькі з прычыны няведання ўласных духоўных скарбаў. А тое, што багацце нашай традыцыйнай культуры непаўторнае, неацэннае і бязмежнае, яскрава паказаў першы міжнародны фестываль беларускага фальклору, які праходзіў у сталіцы Палесся — Пінску.

Янка КРУК. Эталон духоўнасці, які ўратуе нас ад кітчу.



Хлеб-соль народнаму паэту Беларусі Нілу Гілевічу.

# АЙЧЫНА

## ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ



Фота Юрыя БОНДАРАВА.

# Роднае слова — крыніца развіцця асобы, нацыянальнай культуры і духоўнасці народа

Звычайна вучоныя, даючы характарыстыку чалавеку як разумнай істоце, параўноўваюць яго з "братамі меншымі" і ўказваюць на наяўнасць у яго мозгу вялікага рэзерву нервовых клетак: некалькі мільярдаў нейронаў. Але трэба мець на ўвазе: пакуль гэтая шматмільярдная маса не запоўніцца інфармацыяй, хваліцца чалавеку перад малпай няма чым. Дастаткова гадаваламу дзіцяці апынуцца аднаму сярод дзікіх жывёл, і праз два-тры гады перавага "цара прыроды" будзе зведзена на нішто. Менавіта таму размову на абазначаную ў загалоўку тэму лічу неабходным пачаць выслоўем В.Гумбальта: "Чалавек з'яўляецца чалавекам толькі дзякуючы мове, а для таго, каб стварыць мову, ён ужо павінен быў быць чалавекам". Гэтым самым вучоны сцвярджае, што розум чалавека сваім станаўленнем, развіццём і ўдасканаленнем абавязаны мове, яе здольнасці ўзбагачаць, назапашваць, утрымліваць і па запатрабаванні выдаваць інфармацыю аб навакольным свеце.

Назапашанне ведаў і вопыту, іх захаванне і перадача іншым людзям і пакаленням забяспечваецца з дапамогай вуснага і пісьмовага слова, але не ўсякага, а толькі таго, якім людзі добра валодаюць. Думка неадлучная ад слова. Яно з'яўляецца яе першапачатковым элементам і рабочым матэрыялам. Усякае меркаванне, сцвярджэнне ці выснова ўзнікае, афармляецца і рэалізуецца як вынік непасрэднага ці апасродкаванага ўзаемадзеяння ўнутранага ці актуалізаванага слова з пэўнымі прадметамі, з'явамі, фактамі, падзеямі. Гэта і ўзаемадзеянне механізмаў моватворчай сістэмы чалавека: яго моўнага апарата, мозгу, памяці, інтэлекту, дзякуючы якім забяспечваецца разуменне лексічных і граматычных значэнняў, запамінаюцца слыхавыя і графічныя знакі мовы, нормы спалучальнасці слоў і сэнсаў. Такім чынам, у самой прыродзе роднага слова закладзена перспектыва быць "аперацыйным сродкам пазнання, інтэлектуальнага развіцця чалавека, засваення і захавання ведаў і вопыту".

Авалодваючы роднай мовай, яе логікай і структурай, а таксама сэнсам, які перадаецца з яе дапамогай, дзіця актыўна спасцігае прыроду і яе асноўныя заканамернасці. Тым самым яно робіць вырашальныя крокі ў напрамку эвалюцыі, якая і выводзіць у свет розуму.

Працэс развіцця чалавека, узвышэнне яго над жывёльным светам і так званай нежывой прыродай адбываецца паступова, з першых дзён нараджэння.

Дзіця пачынае пазнаваць свет у сям'і. Яно засвойвае першыя тры тысячы слоў з сарака тысяч, якімі ў сярэднім валодае дарослы. Разам з гэтым пераймае мову і этыку сваіх бацькоў. Робіць яно гэта вельмі хутка і паспяхова: адначасова з асэнсаваннем названых словамі рэчаў, з'яў, вобразаў, паняццяў, думак блізкіх людзей, іх учынкаў, імкненняў, жаданняў. Дапамагаюць прыроджаныя інстынкты, важнейшымі з якіх з'яўляюцца зацікаўленасць і здольнасць да пераймання. Пры ўдзеле слова ў малых фарміруюцца і замацоўваюцца ў памяці веды аб сусвеце, складваюцца ўяўленні ад дабрыні, прыстойнасці, справядлівсці-несправядлівасці і іншых маральна-этычных паняццях. Інакш кажучы, фарміруецца ўласны духоўны свет, адзіны і непаўторны, як непаўторная прырода кожнага дзіцяці. Моўныя і маўленчыя ўменні фарміруюцца паралельна са станаўленнем і развіццём маўленчых механізмаў, моватворчай сістэмы, перш-наперш галоўнага мозгу як яе цэнтральнага і асноўнага органа. Чым хутчэй дзіця авалодае мовай, тым большыя яго пазнавальныя магчымасці. У сувязі з гэтым вучоныя выказваюць меркаванне, што маўленчыя механізмы, па ўсёй верагоднасці, з'яўляюцца і механізмамі інтэлекту. А калі гэта так, то з імі звязана развіццё ў чалавека ўяўленняў, мыслення, памяці. Менавіта ад узроўню развіцця гэтых псіхафізіялагічных характарыстык залежыць здольнасць запамінаць і актуалізаваць значэнні слоў і паведамленняў, асэнсоўваць сувязі паміж паняццямі, сцвярджэннямі і высновамі. Вядома, што інтэлект дзевяцігадовага дзіцяці дасягае ў сваім развіцці прыкладна 90 працэнтаў таго ўзроўню, да якога гэта асоба можа ўзняцца ў сталым узросце. Асабліва спрыяльным з'яўляецца перыяд ад двух да пяці год.

Роднае слова абавязкова замацоўваецца сацыялізацыяй асобы, звычайна аднанацыянальнай, аднакультурнай. Дух мовы, на якой гавораць бацькі і якая абслугоўвае дзіця з першых дзён самастойнага выхаду ў свет, яе логіка ўспрымаюцца малымі ўсёй істотай як дух народа, што стварыў гэту мову, і пускаюць глыбокія карані ў душу чалавека, яго плоць і кроў. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што ў большасці нованароджаных заданасць на адну мову, любую, але толькі адну, такая, як на валоданне правай ці левай рукой, але не абедзвюма ў роўнай ступені. Таму і прызнаюцца роднымі народ і яго мова. Пра гэта трэба памятаць усім, хто зацікаўлены ў выхаванні духоўна здаровых людзей, фарміраванні высокага інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі.

Родныя мовы ствараюцца, развіваюцца і ўдасканальваюцца калектыўнымі намаганнямі народаў. Гэта тычыцца перш-наперш лексікі. Аднак сутнасць сапраўднай ісціны, да якой імкнецца кожны народ, трэба шукаць не ў асобных словах, а ў іх спалучэннях. Засвойваючы словы і іх спалучэнні, дзіця ўсё бліжэй і бліжэй яднаецца з сям'ёю, родзічамі, суседзямі, прыродай, бытам і, нарэшце, дзяржавай. Становіцца сваім сярод сваіх. Вучыцца паводзіць сябе ў асяроддзі людзей. Уключаецца ў канкрэтную культуру, якая з'яўляецца кампанентам сусветнай і прадстаўляе яе на тэрыторыі канкрэтнай этнаграфічнай прасторы. Роднае слова называе паняцці, якія бытавалі і бытуюць зараз у свядомасці людзей, з'яўляюцца фактамі жыцця, яго сведкамі, помнікамі гісторыі. Выключыць з ужывання слова — тое самае, што застацца абыякавым да памяці і вопыту сваіх продкаў. Вось чаму важна навучыць дзяцей з маленства берагчы роднае слова, старацца не падмяняць замежнымі і "наватворамі", перадаваць нашчадкам як найвялікшы духоўны скарб і здабытак нацыі. Але нацыянальныя моўныя традыцыі захоўваюцца не столькі ў словах, колькі ў іх спалучэннях. Розныя мовы — гэта не столькі неаднолькавыя абазначэнні адных і тых жа рэчаў, колькі рознае іх бачанне. Адны і тыя ж прадметы, падзеі, з'явы, факты могуць называцца рознымі моўнымі адзінкамі як носьбітамі адной мовы, так і знаўцамі іншых моў. Народ развівае і ўдасканальвае ўнутраную і знешнюю форму мовы і яе сродкі, назіраючы за геаграфічнай прасторай, на якой ён жыве, асэнсоўваючы прыродныя з'явы, паводзіны жывёл, птушак, вынікі працы, гістарычны лёс і ўмовы бытавання. Навакольная прастора з яе прыродай, флорай і фаунай, навуковыя веды, гістарычна-культурны вопыт людзей, праца і рэлігійнае светаўспрыманне былі і застаюцца асновай, на якой складваецца самабытны погляд на мэту існавання, свет і ўзаемадзеянне ў ім усяго жывога і нежывога. Усё гэта адлюстроўваецца ў лексічным складзе нацыянальнай мовы, у знешняй і ўнутранай форме слоў, словазлучэнняў і сказаў. Колькі існуе моваў, столькі і шляхоў да раскрыцця загадак свету і чалавека. Родная мова пераўтварала і пераўтварае сілай народнага духу і фантазіі ў думку, вобраз, выснову, малюнак і гук жыццё герояў і пакутнікаў, працу людзей, неба Айчыны, яе паветра, клімат, горы і нізіны, лясы і рэкі, завірухі і навальніцы. А гэта азначае, што, ацэньваючы вартасць той ці іншай мовы як этнакультурнага асяроддзя, трэба браць пад увагу не толькі багацце і разнастайнасць лексікі, але і структуру, не толькі знешнія формы выражэння сэнсу, а і сам сэнс. Варта лічыцца з галоўнейшай асаблівасцю: іменна ў структуры кожнай нацыянальнай мовы ўвасабляюцца сляды думак бацькоў, дзядоў, прадзедаў і прашчураў, іх жыццёвая псіхалогія і філасофія. Так гаварылі, так гавораць... Так думалі, так думаюць... Так сустракалі родных, блізкіх і суседзяў... Так жаніліся, працавалі, паміралі... Так высвятлялі адносіны з тымі, хто думае інакш...

На тэрыторыі канкрэтнай геаграфічнай прасторы мова карэннага насельніцтва ўбірае ў сябе інтэлектуальны патэнцыял усяго насельніцтва рэгіёна і становіцца агульнаўжывальнай, нацыянальнай, набывае сілу як сродак асветы і выхавання. У нацыянальнай мове, вусна-паэтычнай творчасці, мастацкай літаратуры, навуковых працах, героях і сімвалах кожны народ выказвае, сцвярджае і пакідае ў спадчыну нашчадкам сваё разуменне дабра і зла, высакароднага, каштоўнага і прыгожага. Тым самым ён уносіць свой уклад у сусветную скарбніцу культуры. Стварае духоўнае асяроддзе, што існуе ў канкрэтнай прасторы і часе, спрыяе станаўленню нацыянальнага характару чалавека і яго індывідуальнасці, сцвярджае перад усім светам сябе як этнічнае згуртаванне суб'екта сусветнага культурнага працэсу, сваё права на існаванне ў вялікай і шматгалосай сям'і дзяржаў і народаў як раўнапраўны саўдзельнік навукова-тэхнічнага прагрэсу. Менавіта таму вядомыя людзі свету заўсёды адносіліся да ўсіх нацыянальных моваў з пашанай як да найвялікшага скарбу, люстэрка сваёй і агульначалавечай культуры, яе хавальніцы і формы існавання. Успрымалі яе як "духоўнае цела" нацыянальнай думкі, цэласны вобраз, створаны агульным геніем, праяўленне гістарычнай волі канкрэтнага народа, памяць пра мінуўшчыну і люстэрка сучаснасці.

Нярэдка ў друку можна сустрэць тэрміны "агульначалавечая культура", "агульначалавечыя каштоўнасці". Аднак сутнасць паняццяў, якія хаваюцца за тэрмінамі, не раскрываецца. Вучоныя у галіне педагогікі і настаўнікі-практыкі не могуць пазбавіцца неканкрэтнасці, падмены і блытаніны. Духоўнае атаясамліваецца то з маральнасцю, то з рэлігійным пачуццём, то з інтэлігентнасцю. Вядуцца развважанні аб крызісе маралі, яе "самаскасаванні". Зазначаецца, што ідэя абавязку падмяняецца прагматычнай зацікаўленасцю, асабістай ці групавой, інстынктам асабістых амбіцый, імкненнем да самазахавання ўласнага становішча. Кожны грамадскі ці палітычны дзеяч у адпаведнасці са сваім інтэлектам і культурай выкладае ўласную мараль, не задумваючыся надта, куды кліча, на што натхняе. Палітычна абуджаныя людзі жывуць ва ўмовах "эстэтычнай цырульні" групавых інстынктаў і ідэалаў. Нярэдка знішчаецца ўшчэнт тое, што трэба ўмацоўваць, загартоўваць, памнажаць. Наспела патрэба ва ўдакладненні, навуковым абгрунтаванні і тлумачэнні паняццяў "духоўнасць", "агульначалавечая культура", "агульначалавечыя каштоўнасці", у распрацоўцы канцэпцыі, прыгоднай для фарміравання духоўнасці і маральнасці ва ўсіх членаў грамадства. Ужыванне ў школьнай практыцы тэрміна "агульначалавечая культура" набудзе педагагічны сэнс тады, калі ён будзе атаясамлівацца з нацыянальнай культурай карэннага насельніцтва краіны як абавязковага суб'екта сусветнага культурнага працэсу.

Школа абавязана ўсімі сродкамі педагагічнага ўздзеяння пераконваць сваіх выхаванцаў, што толькі нацыянальна-канкрэтная, увасобленая ў непаўторныя індывідуальныя формы культура жыве ў часе і прасторы, з'яўляецца аб'ектыўнай рэальнасцю. Люстэркам такой культуры, як абаронцай і формай існавання з'яўляецца мова народа, які вякамі жыве на той ці іншай тэрыторыі. Змагацца за абмежаванне ўжывання мовы карэннага насельніцтва тое самае, што свядома сеяць невуцтва, духоўную цемру і тым самым аслабляць інтэлектуальны патэнцыял суверэннай дзяржавы і сусветнага супольніцтва. Толькі той народ, які адчувае адказнасць за лёс сваёй культуры, заслугоўвае пашаны з боку іншых народаў і нацый. Клапоцячыся аб сваім будучым, ён спрыяе духоўнаму станаўленню агульначалавечай культуры. Той, хто разбурае сваю культуру, прыносіць шкоду іншым народам. Такі закон цэлага.

Адна справа — палітыка, зусім іншая — мова і культура. Калі адно падмяняецца другім, занепадае і тое, і другое. Усе народы, падобна сазлучаным сасудам, узаемадзейнічаюць. Для ўсіх іх вельмі важна, каб шляхі натуральнага супрацоўніцтва і ўзаемаўзбагачэння штучна не прыпыняліся, не забруджваліся пяском невуцтва і забабонаў. Палітычныя, духоўныя, прафесійныя, рэлігійныя, псіхалагічныя і філасофскія вынікі супрацоўніцтва і самаразвіцця ў дэмакратычным грамадстве не могуць быць чыёй-небудзь воляй рэгламентаваны ці зведзены да абстрактных, не вызначаных навукай паняційных характарыстык і агульных разважанняў. Нацыянальная культура пранізвае ўсе бакі грамадскага жыцця на канкрэтнай геаграфічнай прасторы, захоўвае ў сабе рэальнасць гаспадарчага, эканамічнага, палітычнага і гістарычнага працэсаў. Менавіта гэта робіць яе самым моцным сродкам уздзеяння на розум, душу і сэрца чалавека. Той народ, які страчвае сваю духоўную культуру і яе хавальніцу — нацыянальную мову — мяняецца духоўна або раствараецца сярод іншых народаў, выключаецца як суб'ект з сусветнага культурнага працэсу. Гэтым самым ён прыносіць шкоду ўсяму чалавецтву. Кожная нацыянальная мова і культура даюць сусветнаму супольніцтву багаты матэрыял для выяўлення не толькі псіхалагічных рыс, але і філасофска-светапоглядных перадумоў нацыянальных аб'яднанняў людзей, іх этнічных асаблівасцяў, сацыяльных характарыстык, гістарычна-культурных вытокаў, якія сведчаць аб сіле і слабасці кожнага асобнага народа.

Сцвярджаючы тэзіс: слова нараджае і стымулюе думку, а думка нацэльвае на пошук патрэбнага трапнага слова, не трэба забывацца, што мова не толькі адлюстроўвае свет, а і стварае яго, забяспечвае мысліцельную функцыю. Але ўласная высакародная думка нараджаецца не чужымі ідэямі і не ўсякім словам, а толькі словам праўдзівым, жывым, індывідуальным, укаранёным у свядомасць і быццё, глыбока асэнсаваным, суаднесеным з вопытам народа і яго нацыянальнай традыцыяй. Чужое слова, узятае "напракат", не надзеленае ўласнай думкай, не падмацаванае гістарычным вопытам народа, — толькі знак, пазбаўлены жывога вобраза, сімвал, эмацыянальна аслабленая абстракцыя. Празмернае ўжыванне такіх слоў стрымлівае развіццё думкі, агрубляе яе, абмяжоўвае, робіць аднамернай, суб'ектыўнай. Таму і называюць родную мову мовай думкі, а чужую — толькі мовай памяці.

Пагубна дзейнічае на псіхіку і псеўдамова — штампаваныя фразы, якія не заглыбляюцца на тым, куды клічуць, на што натхняюць. Калі словы адрываюцца ад рэальнасці і парушаюцца ўстаноўленыя народнай этыкай адносіны паміж паняццямі, імі названымі, парушаецца натуральная логіка думкі. У такіх умовах словы правакуюць неабдуманыя ўчынкі і дзеянні, абуджаюць агрэсіўнасць, нацэльваюць на варожасць і тым самым садзейнічаюць парушэнню спакою і ладу ў асяроддзі людзей.

Сапраўдным інтэрнацыяналістам можа быць толькі патрыёт свайго народа. В.Гумбальт лічыў, што " ў індывідуальным заключана тайна ўсяго быцця". Паняцце індывідуальнасці вучоны суадносіў і з асобнымі людзьмі, і з асобнымі нацыямі. А гэта азначае, што, разбураючы адзінкавае, мы непазбежна прыносім шкоду цэламу, адзінаму. Развіваючы сваю культуру, кожная нацыя садзейнічае роскевіту сусветнай, агульначалавечай. Культурны чалавек, якую б нацыю ён ні прадстаўляў, не можа быць ні ліхадзеем, ні вандалам, ні злодзеем.

Хочацца яшчэ раз спыніцца на той бясспрэчнай ісціне, што люстэркам нацыянальнай культуры, формай яе існавання і хавальніцай з'яўляецца мова карэннага насельніцтва. Убіраючы ў сябе гістарычны лёс свайго народа, нацыянальная мова і культура даюць магчымасць убачыць, зразумець і ацаніць найбольш устойлівыя, канстантныя рысы нацыі, яе празадачу. Менавіта таму, даючы характарыстыку той ці іншай нацыянальнай мове, у заслугу варта ставіць яе ўнутраную сілу: тое, на што яна натхняе, куды кліча. Іменна яна, гэта ўнутраная сіла, фарміруе духоўнасць нацыі, паказвае ўзровень маральнасці людзей і народаў, накіроўвае мары і жаданні людзей. Чалавек не заўсёды можа адназначна адказаць: сам ён прыйшоў да пэўнай высновы, учынку, дзеяння, ці чыё-небудзь добрае ці благое слова прывяло яго. Нават пісьмова не афармленыя, "бедныя і грубыя мовы" хаваюць у сабе "багаты матэрыял для вытанчанага і шматбаковага выхавання".

Валодаючы вялікай унутранай сілай, нацыянальныя мовы па прычыне тых ці іншых абставін могуць аказацца слабымі і неабароненымі. Гісторыя ведае нямала фактаў, калі іх лёс вырашаўся чужаземцамі, непісьменнымі людзьмі ці некампетэнтнымі дзяржаўнымі палітыкамі. Каб не дапусціць гэтага, дэмакратычныя суверэнныя краіны бяруць мовы карэннага этнасу пад сваю ахову і ствараюць усе ўмовы для іх развіцця і роскевіту. Яны кіруюцца тым, што нацыянальная мова — з'ява грамадская і ў яе няма іншых інтарэсаў, чым умацаванне магутнасці і аўтарытэту сваёй дзяржавы. Таму і гарантуюць ёй абавязковую юрыдычную абарону, маральную і матэрыяльную падтрымку, права на абслугоўванне ўсіх сфер навуковай, культурнай, палітычнай і гаспадарча-эканамічнай дзейнасці на сваёй спрадвечна-этнічнай тэрыторыі. Весці палеміку адносна сфер ужывання мовы карэннага насельніцтва на яго спрадвечных землях у вышэйшай ступені бястактна, тое самае, што вырашаць: у чым лепш варыць кашу — у кошыку ці віннай бочцы.

Значэнне нацыянальнай мовы і культуры выходзіць сёння за межы навуковых і бытавых спрэчак. Гэта адначасова і педагагічная, і палітычная, і агульнадзяржаўная праблема. З гэтай нагоды яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя К.Д.Ушынскі пісаў: "Мы поўнасцю пераканаы, што дрэнны стан нашых фінансаў, няўдачы нашых вялікіх прамысловых прадпрыемстваў, правалы нашых адміністрацыйных пачынанняў, перавозка цяжару гужам побач з чыгункай, нашы непраходныя мясцовыя дарогі, нашы абясцэненыя акцыі, знаходжанне адказных спраў у руках непісьменных невукаў і бадзянне вучоных тэхнікаў без усякай справы, бязглуздыя фантазіі нашай моладзі і не менш бязглуздыя страхі, якімі так зручна карыстаюцца людзі, што ловяць рыбу ў каламутнай вадзе, — усе гэтыя і іншыя хваробы, што з'ядаюць нас, вельмі залежаць ад няведання намі нашай айчыны".

Нам, педагогам, зразумела, што ў свеце, бадай, няма другой такой сілы ўздзеяння, якой валодаюць нацыянальная мова і культура пры фарміраванні светапогляду маладых людзей, станаўленні іх цэласнага духоўнага вобліку — вобліку інтэлектуальнага, нацыянальна-культурнага, патрыятычнага. Сцвярджаючы тэзіс пра выключна вялікае значэнне роднай мовы ў сістэме адукацыі, мы кіруемся тым, што лагічна-лінгвістычны кампанент займае надзвычай важнае месца ў сістэмах усіх навук. Хоць кожная з іх і мае сваю ўласную мову — слоўнікі, алфавіты, формулы, сродкі выражэння сэнсу, паняцці і тэрміны, — аднак усё гэта ў практыцы школьнага навучання дапаўняецца і суправаджаецца словам, якім валодае настаўнік і вучань. Важна, каб гэта зразумелі тыя, хто вядзе спрэчкі аб сферах выкарыстання беларускай мовы на тэрыторыі суверэннай Беларускай дзяржавы.

**Васіль ПРОТЧАНКА,**
прафесар, доктар педагагічных навук.

Алесь ГАРУН

## ПРЫСЯГА БЕЛАРУСА

Над гонар і славу, над чары кахання
Народную славу і перакананне,
Што разум дыктуе, заўсёды я волі
Ня здраджу ніколі!

Хай хмара навісне над соннай зямлёю,
Хай гора прыцісне жалезнай рукою, —
Я роднае мовы ня кіну ніколі,
Ня здраджу ніколі!

Бушуе хай бура, віхор хай злуецца,
Хай вецер пануры завые на рэчцы, —
Я роднаму краю, што рвецца да волі,
Ня здраджу ніколі!

Хай гром з пярунамі грыміць і страляе,
Маланка агнямі хай бліскае, ззяе, —
Свайму я народу — бяз хлеба і волі —
Ня здраджу ніколі!

Хай срэбра, дукаты мне сыплюць пад ногі
І скажуць: "Багаты будзь! Кінь род убогі!"
Я плюну з пагардай, народу ж і волі
Ня здраджу ніколі!

Да самага скону я ўсякім прымусам
І сіле прыгону скажу: "Беларусам
Павек застануся!" Я ўласнае волі
Ня здраджу ніколі!

# Знаёмцеся: "Беларуская мінуўшчына"

Дзевяностыя гады XX стагоддзя, безумоўна, увойдуць у гісторыю Беларусі. І не толькі як час, калі сусветная супольнасць папоўнілася яшчэ адной незалежнай дзяржавай, імя якой — Рэспубліка Беларусь. Гісторыкі, што звернуцца з цягам часу да аналізу гэтых гадоў, вельмі верагодна, адзначаць такую іх адметнасць: на нашу зямлю прыйшла трэцяя за апошнія дзесяцігоддзі хваля нацыянальнага Адраджэння. Як вядома, першыя дзве хвалі (на пачатку стагоддзя і ў дваццатыя гады) не дасягнулі ў поўнай меры сваёй мэты і разбіліся аб цвёрдыя муры — спачатку вялікадзяржаўнага шавінізму, а потым пралетарскага інтэрнацыяналізму. Пры гэтым другая хваля адраджэння была задушана з асаблівай жорсткасцю: тысячы і тысячы тых, хто ўзняў яе на Беларусі, сталі ахвярамі крывавага сталінскага генацыду. Расправа гэта была настолькі маштабнай і жорсткай, што спатрэбілася амаль сем дзесяцігоддзяў, каб грамадскасць змагла прыйсці ў сябе. І хто ведае: каб не распад СССР, сыход з палітычнай арэны камуністычнай партыі і крах яе ідэалогіі, як бы ўсё павярнулася. Хутчэй за ўсё, абсурдная ідэя зліцця ўсіх нацый, што жылі на абшарах СССР, у адзіны савецкі народ была б ажыццёўлена, і ў нябыт адышлі б не толькі беларусы, але і само паняцце Беларусь.

На шчасце, гэтага не здарылася. Палітычныя катаклізмы, што разбурылі апошнюю на планеце імперыю, далі беларусам яшчэ адзін шанс застацца самімі сабой — народам з багатай гісторыяй, цудоўнай мовай, адметнымі традыцыямі. І цяпер ўжо толькі ад нас саміх залежыць, як мы распарадзімся гэтым нечаканым падарункам лёсу, ці не страціць новая хваля Адраджэння моц, ці не скаціцца назад (на гэты раз, вельмі верагодна, канчаткова) у акіян бяспамяцтва, якое пагражае беларусам.

Часопіс "Беларуская Мінуўшчына" — дзіця трэцяй хвалі Адраджэння. Яго з'яўленне на свет было выклікана рэанімацыяй гістарычнай самасвядомасці беларусаў, усведамленнем імі сябе як адметнага народа, які мае права ганарыцца менавіта сваёй, а не суседскай мінуўшчынай.

Паўтара года існавання часопіса даюць права зрабіць выснову: "Беларуская Мінуўшчына" — на правільным шляху. Выданне знайшло свайго чытача, яно паступова набывае свой, адметны твар. Часопіс ні па змесце, ні па форме не падобны ні на дарослую ўжо "Спадчыну", ні на такі ж малады "Беларускі гістарычны часопіс". Ён разлічаны не толькі на чытача, дасведчанага ў пытаннях беларускай гісторыі, але і на тых, хто толькі пачынае падарожжа ў наша мінулае. Менавіта таму супрацоўнікі часопіса стараюцца арганічна спалучаць у публікацыях навуковасць і папулярнасць. Якраз у гэтым спалучэнні нам хацелася б бачыць адметнасць "Беларускай Мінуўшчыны".

Як сведчыць аналіз, часопіс знайшоў не толькі свайго чытача. Вакол яго паступова складваецца і кола аўтараў, якія аддаюць перавагу супрацоўніцтву менавіта з ім. Сярод іх не толькі добра вядомыя на Беларусі гісторыкі, архівісты, краязнаўцы (Георгій Штыхаў, Мікола Ермаловіч, Алег Трусаў, Уладзімір Арлоў, Генадзь Сагановіч, Вячаслаў Шалькевіч, Уладзімір Міхнюк, Эмануіл Іофэ, Леанід Побаль, Анатоль Цітоў, Расціслаў Платонаў), але і моладзь, якая ўжо паспела на поўны голас заявіць аб сабе на ніве вывучэння і папулярызацыі беларускай мінуўшчыны (Вітаўт Чаропка, Алег Сувалаў, Алег Дзярновіч, Алесь Карлюкевіч).

Шырокім з'яўляецца і спектр рубрык, пад якімі публікуюцца матэрыялы: "Мы і гісторыя", "Погляд вучонага", "Беларусь у геапалітыцы", "Дзяржава", "Дыпламатыя", "Палеміка", "Радавод", "Постаці", "Збройны чын", "Археалогія", "Геральдыка", "Гарады і вёскі", "Этнаграфія", "Архівы", "Музеі", "Друкуецца ўпершыню", "Краязнаўства", "Геаграфія", "Мартыралог", "Беларусы ў свеце", "Рамёствы", "Прырода" і г.д. Карацей кажучы, публікацыі часопіса задаволяць любы густ.

Нельга не сказаць колькі слоў аб планах рэдакцыі. А яны вельмі багатыя, пра ўсё і не раскажаш. Рыхтуецца шэраг публікацый, прысвечаных двухсотым угодкам трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Мы раскажам аб самых адметных бітвах, што адбываліся на нашай зямлі. З'явяцца ў часопісе публікацыі з нагоды 75-годдзя Слуцкага збройнага чыну. Матэрыялы пад рубрыкай "Гарады і вёскі" будуць прадстаўлены артыкуламі "Смаляны", "Койданава", "Чамяры", "Ракаў", "Лагойск". Суразмоўцамі чытачоў "Беларускай Мінуўшчыны" стануць беларускі тапаніміст Валянціна Лемцюгова, аўтары тэлевізійнага фільма "Вітаўт, або Пастка для зубра", пісьменнік Станіслаў Цярохін. У некалькіх артыкулах будзе ўзнята тэма трагедыі нацыянальнай інтэлігенцыі, якая стала ахвярай культу асобы. Ёсць намер расказаць вам аб трагічным лёсе замкаў і храмаў Беларусі. Будзе працягнута знаёмства з музеямі і архівамі нашай краіны. Асаблівую ўвагу мы звернем на тэму 50-годдзя Вялікай Перамогі, пры гэтым пастараемся расказаць аб маловядомых старонках барацьбы беларускага народа супраць фашызму.

І, як заўсёды, у кожным нумары часопіса — цудоўныя каляровыя ілюстрацыі, своеасаблівы летапіс беларускай мінуўшчыны.

Наш зварот да чытачоў "Настаўніцкай газеты" не выпадковы. Як вядома, сярод настаўніцтва нямала шчырых прыхільнікаў нашай даўніны, людзей, якія не толькі самі цікавяцца гісторыяй Беларусі, але і прыкладаюць нямала намаганняў для таго, каб пашыраліся шэрагі тых, для каго вывучэнне беларускай мінуўшчыны становіцца сур'ёзным заняткам.

Часопіс "Беларуская Мінуўшчына" дапаможа Вам у гэтай высакароднай справе. Мы спадзяёмся, што ён з'явіцца ў кожнай школьнай бібліятэцы, стане вашым надзейным сябрам у вывучэнні нашай даўніны і распаўсюджанні гістарычных ведаў.

Падпісны індэкс — 75021. Цана падпіскі на паўгода (тры нумары) — 6000 рублёў.

**Святаслаў АСІНОЎСКІ,**
намеснік галоўнага
рэдактара часопіса
"Беларуская
Мінуўшчына".

АЙЧЫНА

Постаці Беларусі

# Наш сучаснік — Якуб НАРКЕВІЧ-ЁДКА

Усяго ў некалькіх сотнях метраў ад пачатку вялікай беларускай ракі Нёман хаваецца не да канца раскрытая старонка гісторыі роднага краю. Стагоддзе назад на беразе ракі ў скляпеннях сядзібнага дома палалі электрычныя разрады, ствараліся незвычайныя "электрычныя" здымкі, з вежы даносіўся шолах ад пралятаўшых недзе віхур, здзяйсняліся спробы бяздротавай сувязі, выпрабоўваліся новыя прыборы і прылады, метады лячэння. У аранжарэях блукалі дзівосныя птахі, над электратокам уздымаліся незвычайныя расліны.

Сюды на сустрэчу спяшаліся знакамітыя вучоныя з далёкіх мясцін. І цяпер у гэтым кутку дрэмлюць затоеныя сляды і сведкі дзейнасці таленавітай самабытнай асобы.

... У канцы мінулага стагоддзя ў маёнтку "Над-Нёман" ( цяпер гэта вёсачка Наднёман на поўдні Уздзеншчыны) гаспадарыў невысокі, рухавы, сцвярджаюць — таварыскі чалавек з пільным позіркам незвычайных светла-шэрых вачэй. Яго бачылі з раніцы на палях, у канюшнях, на будоўлях. Ён усюды нёс з сабою занепакоены імпэт: трэба рабіць усё лепей, па-новаму, па-сучаснаму — час не церпіць.

... Здаралася, вечарамі над наднёманскай прасторай лунала духавая музыка, над палацам узляталі ракеты, палалі феерверкі. Уладальнік маёнтка, участковы наглядальнік народнай цвярозасці Ігуменскага павета адзначаў заканчэнне чарговага антыалкагольнага вечара, на які былі запрошаны ўсе мясцовыя сяляне. Затым яго правасхадзіцельству пану Мінскаму губернатару ляцела справаздача аб праведзеным "мерапрыемстве":

"Гэтым пачціва гонар маю далажыць Вашаму правасхадзіцельству, што 12 і 26 чэрвеня 1898 года ў канцэртнай зале маёй санаторыі "Над-Нёман" спраўлены мною два народныя канцэрты, раздзелены на такія пяцьсот білетаў і дармавы пачастунак чаем з булкамі і салодкімі напоямі з вадой на 1000 конавак. Канцэрты пачыналіся выкананнем народнага гімна, аркестра і хорамі, з музыкай на раялі, скрыпцы, гармонікордзе. Харавыя спевы ў народным гусце, відаць, выклікалі прыемнае ўражанне на сялянскай публіцы. Усё прайшло прыстойна, пасля канцэртаў да 11-ці гадзін народнае гулянне працягвалася і затым усе маладыя і старыя разышліся , зусім задаволеныя праведзеным вечарам.

Вашага правасхадзіцельства ўсешаноўнейшы слуга".

Далей ішоў адрас і подпіс: "Мінскай губерні пошта Узда, Я.А.Наркевіч-Ёдка. Санітарная станцыя Над-Нёман. 1898".

Могуць падумаць: яшчэ адна прыхамаць багатага памешчыка. Ды як сказаць! За ўсім яго жыццём стаяла нешта значна большае: здзяйсненні сусветнага значэння. Нават калі на некаторы час яму і ягоным справам было наканавана забыццё, то ўсё ж намаганнямі грамадскасці гадоў дзесяць таму веліч яго спраў прарвалася праз заслону часу, нагадваючы аб сваёй выключнасці і неардынарнасці.

Такімі бачацца сёння справы нашага земляка, выдатнага ўрача, вучонага і вынаходніка прафесара Якуба Атонавіча Наркевіча-Ёдкі. Можна адназначна сцвярджаць, што ён з'явіўся першаадкрывальнікам новых навуковых накірункаў на мяжы розных навук. Менавіта тут хаваюцца самыя плённыя сферы дзейнасці даследчыкаў.

Асоба Я.Наркевіча-Ёдкі не ўкладваецца ў рамкі звычайных уяўленняў. Вырваўшыся за межы тагачаснага Паўночна-Заходняга краю, ён заваяваў прыхільнасць навуковай думкі Расіі і Заходняй Еўропы і з гонарам увайшоў у яе высокі храм.

Ісці па слядах Я.Наркевіча-Ёдкі цікава і павучальна. Паспрабуем уявіць, чым жыў, займаўся гэты і цяпер яшчэ малавядомы навуковец у пару яго юнацтва і творчага росквіту — сто гадоў таму назад.

Вось што пісалі пра яго ў тыя часы:

*"Вучоны Я.А. адзін з выдатных людзей Паўночна-Заходняга краю Расіі...*

*Адзначаецца яго імкненне да музыкі як віртуоза-піяніста і кампазітара...*

*Ён атрымаў клапатлівае і ўсебаковае выхаванне: медыцынскае, электратэхнічнае і нават артыстычнае...*

*Пасля заканчэння Мінскай гімназіі (1863) ён удасканальваў свае пазнанні ў навуковых установах Масквы, Вены і Парыжа, у тым ліку ў знакамітай Сарбоне... Тут у 1870 годзе яго застала франка-пруская вайна. У час асады Парыжа, каб зарабіць на жыццё, ён даваў урокі музыкі". Відаць, ён быў сведкам трыумфу і трагедыі Парыжскай Камуны...*

*Пасля заканчэння навучальнай установы Якуб Атонавіч, як знаўца музыкі, адправіўся вандраваць па Еўропе і Азіі, даючы канцэрты, і атрымліваў выдатныя водгукі розных каранаваных асоб...*

*Вярнуўшыся на радзіму Якуб ажаніўся з Аленай Пясляк, дачкой суседзяў з маёнтка Мохатры. З пецярых дзяцей самы малодшы Конрад памёр у Кракаве ўжо пасля другой сусветнай вайны..."*

Якуб Наркевіч-Ёдка ведаў некалькі еўрапейскіх моў, высока цаніў сусветную культуру і навуку, ведаў і любіў музыку. Ён быў адным з адукаванейшых людзей тагачаснай Міншчыны. Спасцігнутыя ў юнацкія гады мастацкія вобразы затым пераходзілі ў навуковыя аналогіі. Асабістыя ўспрыняцці не аддзяляліся ад навуковай творчасці — у яго навука і мастацтва былі раўназначнымі метадамі пазнання Сусвету. За навуковымі сімваламі і мастацкімі вобразамі ён адчуваў і адгадваў адзін і той жа подых Сусвету, адзін і той жа пульс жывой прыроды. Яго навуковыя і філасофскія памкненні замкнуліся ў рэшце рэшт на медыцыне.

Усё жыццё Я.Наркевіча-Ёдкі ахутана нейкай недасказанасцю, нераскрытасцю. Яго навуковы прарыў, які прыпадаў на пачатак 90-х гадоў, і сёння ў многім застаецца загадкай.

Якуб Наркевіч-Ёдка, сын вядомага ў свой час на Міншчыне памешчыка Атона Ануфрыевіча Наркевіча-Ёдкі, жыў у вотчынным маёнтку "Над-Нёман". Паходзіў са старажытнага шляхецкага роду.

Продкі вучонага належалі да літоўскага герба Ліс, які пачынаўся ад лідскага воіна Марціна Ёдкі. Яму ў 1546 годзе былі дараваны прывілеі і маёмасць. Дзед вучонага Ануфры Мацвееіч, зняволены пажыццёва ў маёнтку за ўдзел у паўстанні 1830—1831 гадоў, атрымаў дзякуючы гэтаму магчымасць прымножыць сваю гаспадарку. Праз Ганну Эстку, маці вучонага, Наркевічы-Ёдкі далучыліся да роду Касцюшкаў. Яна была вытанчанай адукаванай жанчынай, стварала і падтрымлівала ў сям'і атмасферу ўзвышанасці і творчасці.

Носьбітамі перадавых, а часам і дысідэнцкіх, поглядаў былі і некаторыя іншыя сваякі вучонага. Так, яго стрыечны брат Вітаўт Наркевіч-Ёдка праславіўся як выдатны хірург-афтальмолаг. Ён вучыўся ў Тарту, Берліне, практыкаваў у Варшаве. Па хваробе жыў непадалёку ад сядзібы "Над-Нёман" у вёсцы Бабоўня (цяпер Капыльскага раёна), дзе трымаў лячэбніцу. Яго сын, таксама Вітаўт, вядомы польскі сацыяліст, адзін са стваральнікаў Польскай сацыялістычнай партыі. Яшчэ адзін стрыечны брат — рэвалюцыянер і выдатны металург Іван Наркевіч-Ёдка меў невялікі маёнтак у Кацельніках каля Капыля. Жонка яго Алена была пляменніцай генерала Я.Дамброўскага. Праз апошняга мы выходзім на Казіміра Адамавіча Петрусевіча, віднага польскага дэмакрата і юрыста, дэлегата І з'езда РСДРП, які быў жанаты з яго дачкой Янінай...

Доўгія пошукі вывелі і на некаторых сённяшніх сваякоў вучонага. У мінулым годзе мясціны знакамітага продка наведаў яго праўнук, грамадзянін ЗША Хрысціян Наркевіч-Лейн. Яго прабацькі пакінулі Беларусь яшчэ перад першай сусветнай вайной. 40-гадовы дырэктар Музея дызайна і архітэктуры ў Чыкага, выкладчык архітэктуры ў адным з каледжаў арганізаваў у снежні мінулага года ў ЗША выставу твораў дзяцей-чарнобыльцаў. У зале музея былі выстаўлены малюнкі дзяцей з забруджаных раёнаў Беларусі пад назвай "Дзеці Чарнобыля". Цяпер яна вандруе па ЗША. У ліку продкаў Х.Наркевіча-Лейна — Радзівілы, Ёдкі, Наркевічы. Адначасова ён звярнуў увагу на праблемы ўзнаўлення помнікаў беларускай архітэктуры, у тым ліку сядзібы "Над-Нёман". Архітэктар марыць прыехаць сюды разам са сваімі студэнтамі, каб прыняць удзел у рэстаўрацыі. Дарэчы, сядзіба зараз перададзена ва ўладанне нядаўна створанаму Музею прыроды і экалогіі Рэспублікі Беларусь, які ўзяў на сябе ўзнаўленне гэтага гістарычнага помніка навукі і культуры. "Цяпер я неразлучны з Беларуссю", — завярае Х.Наркевіч-Лейн.

У Маскве зараз жыве яшчэ адзін далёкі нашчадак даследчыка, вучоны-кібернетык, доктар тэхнічных навук Алена Уладзіміраўна Маркава. Яна таксама праяўляе вялікую цікавасць да спраў вялікага продка, некалькі разоў бывала ў Уздзе, Наднёмане, Бабоўні.

Нам вядома, што на Капыльшчыне, у Мінску ёсць і іншыя нашчадкі вучонага. Відаць, іх сціпласць не дазваляе паведаміць пра сябе. Тым не меней, мы спадзяёмся, што такое можа здарыцца зараз, праз "Настаўніцкую газету".

... Маёнтак "Над-Нёман", старажытнае мястэчка Пясочнае, а таксама размешчанае ў пяці кіламетрах ад яго Атонава (цяпер Сінячова) былі набыты ў першай палове мінулага стагоддзя ў кн.Радзівілаў. Сядзібны дом месціцца на правым узвышаным беразе ракі Нёман. Белакаменны будынак быў узведзены ў XVIII—XIX ст.ст. на месцы былога бровара. Затым неаднаразова яго перабудоўвалі. У час апошняй вайны разбураны.

Менавіта з гэтага месца пачынае бег 1000-кіламетровы Нёман. Адсюль некалі пачынаўся сплаў лесу, тут у далёкія часы будаваліся і адпраўляліся на Балтыку ісцінна нёманскія судны — віціны — з груам зярна, вяндліны, футра, мёду, паташу і інш.

Адыходзячая зараз вёсачка Наднёман яшчэ не так даўно была вядома далёка за межамі Міншчыны і Расіі — у Парыжы, Рыме, Фларэнцыі, Барселоне, Вене, Празе, Берліне і іншых гарадах Еўропы. Яе наведвалі вядомыя вучоныя. У багатую дамашнюю бібліятэку маёнтка заглядвалі У.Сыракомля і Я.Колас...

Я.Наркевіч-Ёдка лічыўся буйным землеўладальнікам Мінскай губерні, меў чын стацкага саветніка за дабрачынныя справы і вучоныя працы.

Вучоны пачаў сваю навуковую работу з абсталявання шэрагу лабараторый. Метэастанцыя першага разраду, якая была створана спачатку ў Атонаве, была буйнейшай у нашым краі, уваходзіла ў сетку станцый Галоўнай фізічнай абсерваторыі С.-Пецярбургскай Акадэміі навук. Работы на ёй вяліся непасрэдна па праграме Метэаралагічнай камісіі Рускага геаграфічнага таварыства. Вучоны вынайшаў шэраг прыбораў і прылад метэаралагічнага і сельскагаспадарчага прызначэння.

Акрамя метэастанцыі ў яго маёнтку быў электраграфічны кабінет, хімічная лабараторыя для даследавання саставу глебы і невялікая астранамічная абсерваторыя. Тут меліся таксама абсталяваныя кумысалячэбніца, аранжарэя.

Асноўная падрыхтоўка Наркевіча-Ёдкі, як і большасці прыродазнаўцаў таго часу, была ўрачэбнай. Доктар ён быў неблагі, і ў сваім санаторыі вылечваў нават безнадзейна хворых.

Вучоны яшчэ ў юнацтве сфарміраваў сваю пазіцыю і прадвызначыў свой жыццёвы і навуковы шлях. Звернемся зноў да газет:

*"Любімымі навукамі вучонага сталі метэаралогія і электралогія.*

*Пачаўшы з маланка- ці градаадвода (адно з яго вынаходстваў), ён перайшоў да электракультуры, г.зн. дастасавання электычнасці да земляробства, затым да электраграфіі і электратэрапіі. Усё глыбей і глыбей пранікаў у патаемную сувязь паміж жывымі арганізмамі і атмасфернай электрычнасцю і дайшоў нарэшце да некаторых адкрыццяў, уразіўшых вучоны свет высокім навуковым і філасофскім зместам, які падымае заслону з патаемнай прыроды — гэтай магутнай і ўсеаб'емнай сілы, і носіць у сабе зародак буйнага перавароту ў нашых навуковых паняццях на прыроду і яе сілы".*

Ён лічыў, што электрычнасць з'яўляецца неад'емным элементам навакольнай прыроднай рэчаіснасці, аказвае на жывую прыроду самы непасрэдны ўплыў.

І сапраўды, навуковая кампетэнцыя вучонага ў галіне атмасфернай электрычнасці не мела сабе роўных. З 90-х гадоў мінулага стагоддзя яго нязменна завуць электролагам, электрографам, электратэрапеўтам, і з падачы парыжскіх газет нават "электрычным чалавекам". Мала хто згаджаўся ўдзельнічаць у яго эксперыментах — у большасці яны праводзіліся ўначы, у цемры пад трэск і сполахі электрычных разрадаў.

Зыходзячы з таго, што акрамя клімату ў звычайным разуменні ёсць яшчэ і электраклімат, вучоны ўсебакова даследаваў праблему штучнага прыцягнення токаў у глебу. Павышэнне ўраджайнасці выцякала з неадкладных эканамічных патрэб гаспадаркі. На палях маёнтка праводзіў доследы з токамі, што ўзнікаюць паміж апушчанымі ў зямлю меднымі і цынкавымі пласцінамі. Станоўчыя вынікі далі знаць аб сабе адразу.

Пад электракультывацыяй было занята каля 200 гектараў сельгасугоддзяў. Ураджайнасць амаль ці не ўсіх культур павышалася на 6—20 працэнтаў. Адметнай рысай методыкі Якуба Атонавіча было тое, што пазней ім выкарыстоўвалася для электракультуры толькі атмасферная электрычнасць, якая збіралася з атмасферы з дапамогай градаадводаў і адводзілася на заглыбленыя ў зямлю металічныя пласціны. Праўда, мясцовыя людзі спілоўвалі па начах "панскую выдумку", бо лічылі, што гэтым памешчык "зганяе" град на сялянскія гоні. Сёння такога роду даследаванні амаль поўнасцю спынены.

Даклады вучонага аб уплыве электрычнасці на расліннасць, зробленыя ў 1892 і 1893 гадах на пасяджэннях Пецярбургскага сходу сельскіх гаспадароў, утрымліваюць апісанне асноўных напрамкаў яго дзейнасці і жыва даносяць да нас падрабязнасці метаду на вуковых пошукаў.

У далейшым выкарыстанне электрычнасці ў земляробстве перарасло ў выкарыстанне электрычнай сілы для лячэння. Гэтым была перакінута кладка ад расліннага да жывёльнага свету. Даследаванні адзначаліся ўсебаковасцю і паслядоўнасцю. Ад чыста прыкладнога дастасавання вынікаў работ да навуковых абагульненняў — такім было развіццё навуковай пазіцыі Якуба Атонавіча. Адзначым, што гэты шлях дазволіў яму на працягу кароткага часу, літаральна чвэрці стагоддзя, заняць вядучае становішча ў еўрапейскай навуцы і дасягнуць бліскучых вынікаў. Да пачатку 90-х гадоў вучоны прыйшоў да вельмі значных і важных адкрыццяў.

Вось адзін з многіх адрасоў, які падпісалі відныя італьянскія вучоныя ў 1893 годзе пасля дэманстрацыі Якубам Наркевічам-Ёдкам вынікаў сваіх пошукаў: "Мы, што ніжэй падпісаліся, прысутнічалі на вопытах п.Ёдкі, знайшлі важнасць погляду вучонага. Гэтыя вопыты не толькі нас здзівілі і прывялі ў захапленне, але і даказалі вялікую будучнасць у выкарыстанні электрычнасці і электраграфіі". Пазней Якуб Атонавіч быў запрошаны ў Вену для ўдзелу ў правядзенні замераў атмасфернай электрычнасці.

Вучоны ішоў далей. Ён пісаў: "Гэта навяло мяне на думку, ці нельга як-небудзь адбіць, сфатаграфаваць, улавіць гэты рух, г.зн. атрымаць на пласцінны адбітак, які паказваў бы распарадкаванне ў прасторы электрычных сіл. Такі метад я хацеў бы назваць электраграфіяй..." Дзякуючы ёй можна было наглядна пераканацца, што "атрымліваемая з нашага арганізма электрычная іскра пры розных яго станах розная і пастаянная для кожнага стану". Ён заўважыў, як электрычнасць "выходзіць і ўваходзіць" у арганізм. З дапамогай электраграфіі Я.Наркевіч-Ёдка атрымаў 1500 відаў электрычных іскраў. "Яны як быццам бы малююць перад вачыма якісьці новы, невядомы нам свет, успрымаемы намі, але нябачны. Яны з'яўляюцца ў адносінах таемнасці электрычнасці тым жа, што мікраскоп у свеце цудаў прыроды..."

Прапанаваны вучоным у 1891 годзе метад электраграфавання "без аб'ектыва" — яго важнейшае навуковае дасягненне. Прынцып заключаўся ў тым, што на прыкладваемай да аб'екта пад электрычным напружаннем фотапласцінцы электрычны ток пакідае своеасаблівы адбітак, "карону", "аўру", якая пры традыцыйным праяўленні робіцца бачнай, адлюстроўваючы контуры таго ці іншага электраграфуемага ўчастка цела.

Усе электраграфіі вызначаліся арыгінальнасцю і высокай якасцю. Шэраг з іх прайшоў пры жыцці вучонага ў перыядычных выданнях і кнігах. Арыгінальных электраграфій пакуль што не выяўлена.

*У той жа час адзначалася, што "нейкі дзіўны лёс спасцігае заўсёды нашы адкрыцці і вынаходствы ў нас дома. Заўсёды неяк так здараецца, што наша роднае адкрыццё і вынаходства атрымлівае прымяненне ў нас толькі тады, калі яно пройдзе праз экспертызу замежных вучоных.*

*Трэба, каб за мяжой яго прызналі, трэба, каб замежныя капіталісты ўзялі яго на водкуп, і тады толькі мы, ткнуўшы пальцам у лоб, гаворым: "Ах, як гэта мы праваронілі?.." Тое ж самае верагоднае здарыцца з вынаходствам п.Наркевіча-Ёдкі..."*

Як у ваду глядзеў 103 гады таму карэспандэнт "Минского Листка"! Пад электраграфіяй сёння разумеюць часцей за ўсё т.зв. "кірліянаўскія фатаграфіі", ці інакш "эфект Кірліян". Муж і жонка С. і В. Кірліяны з Краснадара паўтарылі ў канцы 40-х гадоў электраграфічныя вопыты Я.Наркевіча-Ёдкі з выкарыстаннем болей дасканалых крыніц электрычнага току і фотаматэрыялаў. Але што болей істотна — яны, ведаючы пра Я.Наркевіча-Ёдку, замацавалі сваё аўтарства афіцыйна праз рэгістрацыю вынаходстваў. Пад назвай "эфект Кірліян" электраграфіі ведаюць цяпер ва ўсім свеце.

*Прызнаўшы заслугі Я. Наркевіча-Ёдкі ў галіне электраграфіі мы б адсунулі па меншай меры на паўстагоддзя назад — да 1891 года — айчынны прыярытэт у гэтым адкрыцці. Праўда, памкненні Кірліянаў не распаўсюдзіліся на медыцынскую частку гэтага адкрыцця, якая была і застаецца да сённяшняга дня выключнай прывілеяй Я. Наркевіча-Ёдкі: "П. Ёдка прыйшоў да высновы, што форма электрычнай іскры залежыць ад таго месца цела, адкуль яна вылучана, ад індывідуальных асаблівасцей суб'екта, які падвяргаецца вопыту, ад стану яго здароўя, ад стану атмасферы і г. д. ... Згодна даследаванню кожная хвароба дае сваю форму, сваю фігуру для іскры... Не толькі фізіка, але і медыцына атрымалі ў метадзе П. Ёдкі буйнае зававанне... Яны могуць служыць у руках медыка новым, вельмі тонкім і дакладным метадам дыягназу. Я. А. заўважыў розніцу ў электраграфічным адлюстраванні аднолькавых участкаў цела хворых і здаровых, стомленых і ўзбуджаных, спячых і бадзёрых людзей". Больш таго, вучоны прадказваў магчымасць выкарыстання метаду для вызначэння псіхалагічнай сумяшчальнасці людзей. Электрычны малюнак змяняецца не толькі ад стану здароўя, але і ад стану духа пацыента. "Электраграфічныя малюнкі могуць служыць даволі праўдзівай ілюстрацыяй нашага псіхафізічнага свету ў розныя моманты яго стану... Тое, што складае ў нас па часціцы распазнання гэтых хвароб асабістае ўяўленне, то Наркевіч-Ёдка аб'ектывізуе з дапамогай сваіх метадаў і пры гэтым надзвычай і да відавочнасці наглядна..."*

У друку з'явіліся меркаванні аб выключных магчымасцях электраграфіі. У медыцыне работы Я. Наркевіча-Ёдкі параўноўваліся з адкрыццём Рэнтгена.

Можна сцвярджаць, што электраграфія, як вельмі перспектыўны метад дыягностыкі захворванняў, на радзіме адкрыцця за прайшоўшае стагоддзе не атрымала якога-небудзь развіцця. Тут мы не прасунуліся наперад. А патрэба ў гэтым ёсць, хаця б дзеля таго, каб далучыць навуковасць і аб'ектыўнасць да тых сфер псіхатэрапеўтычнага лячэбнага умяшання, якія сёння захоплены шматлікімі малаадукаванымі экстрасенсамі. За мяжой жа гэтай з'яве надаецца больш увагі. Дзейнічаюць электраграфічныя салоны. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што т. зв. "дэтэктары хлусні" і некаторыя іншыя метады крыміналістыкі заснаваны на прынцыпе ёдкаўскай электраграфіі.

Сёння электраграфія знаходзіць дастасаванне ў фізічным эксперыменце, дэфектаскапіі, біялогіі, з поспехам выкарыстоўваецца ў матэрыялазнаўстве, пры неразбуральным кантролю ўнутраных дэфектаў. Магчыма выкарыстанне яе для экспрэс-кантроля якасці апрацоўваемай паверхні.

Венгерскі ўрач Л. Ветаў, напрыклад, заўважыў, што пашкоджаны зуб дае электраграфічны здымак, адрозны ад здаровага. Ёсць сведчанні, што адлюстраванне пальцаў некалькіх чалавек, атрыманае электраграфічным спосабам, дэманструе псіхалагічную сумяшчальнасць іх уладальнікаў. У ЗША з дапамогай гэтага метаду вызначалася сумяшчальнасць членаў доўгачасовых экспедыцый, у тым ліку і касмічных.

Замест фотапласцінак цяпер выкарыстоўваюцца вадкія крышталі, якія болей дакладна і выразна вызначаюць паталагічныя адхіленні ў чалавека, рэканструююць яго эмацыянальны стан. Але сутнасць адкрыцця ад гэтага не мяняецца.

У развіццё свайго адкрыцця ў канцы жыцця Якуб Атонавіч вынайшаў метад атрымання люмінесцэнцыі ўсяго чалавечага цела. У гледачоў узнікала ўражанне, быццам у прыцемку "вызываўся" дух жывога чалавека.

Так ці ж не крыўдна ў такім разе тое, што ў нас мала вядома імя чалавека, адкрыццё якога выкарыстоўваецца ў медыцыне і крыміналістыцы, у геалогіі, псіхалогіі, хіміі, біялогіі і касманаўтыцы? Наш грамадзянскі абавязак — аднавіць прыярытэт вучонага-земляка ў вынаходстве электраграфіі.

Далей вучоны прыйшоў да высновы, што недахоп ці лішак электрычнасці ў жывым арганізме — ненармальнасць, якая прыводзіць да цяжкіх яго разладаў, пагаршэння здароўя. Таму, натуральна, ён займаецца і прымяненнем электрычнасці для лячэння. Ад электраграфіі ён пераходзіць да электратэрапіі.

*"Галоўная перавага новага метаду лячэння нервовых захворванняў электрычнасцю па сістэме п. Ёдкі складаецца ў тым, што ён абмяжоўвае ўплыў індукцыйных токаў на абраныя цэнтры нервовай сістэмы без усякага сатрасення і раздражнення ўсяго арганізма. Ёдка даследуе праводнасць нервовай сістэмы з дапамогай іскры ці свячэння гейслеравай трубкі. Тое ж ён выконвае і з дапамогай тэлефоннай трубкі і сілы навядзення гукавога шуму ад румкафавай шпулі — даследуе ступень захворвання, напрыклад, пазваночніка. Аб сваіх адкрыццях ён паведаміў Парыжу, Вене, Фларэнцыі..."*

Гэта інфармацыя не мае асаблівай патрэбы ў каментарыі. Новы метад электратэрапіі Я. Наркевіча-Ёдкі правяраўся ў Рымскім інстытуце фізіятэрапіі пад назвай "Сістэмы Ёдкі", а пазней увайшоў у практыку ў наднёманскім агульнадаступным санаторыі.

Вучоныя Парыжа засведчылі поўны поспех яго доследаў і нараджэнне новай навукі. Я. Наркевіч-Ёдканазначаецца супрацоўнікам Інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Пецярбургу, які прадаўжае плённую працу і цяпер.

Аб сваіх доследах і метадах лячэння вучоны, паводле сведчання яго біёграфа М. Дэкрэпа, дакладваў у час замежных паездак на пасяджэннях вучоных таварыстваў Расіі, Італіі, Францыі, Германіі, Аўстрыі і іншых краін.

*Яшчэ адна цікавая інфармацыя: "У нашым краі Я. А. асабліва вядомы як заснавальнік і дырэктар санаторыі "Над-Нёман", куды з'язджаліся для лячэння светам і электрычнасцю хворыя з усіх куткоў Расіі. Я. А. лячыў дармова і бедных, і багатых і адносіўся зусім без розніцы да людзей, не звяртаючы ўвагі на нацыянальнасць...".*

Медыцынская база вучонага, яго санаторый "Над-Нёман", была адкрыта для лячэння нервовых і "слабагрудных" хворых. Знаходзіўся ён непадалёк ад цэнтральнай сядзібы ў лесе і складаўся з дзесяці асобных летніх дач і цэнтральнага "кургаўза". Хворыя лячыліся тут з выкарыстаннем самых дасканалых метадаў, у тым ліку з прымяненнем электраграфіі і электратэрапіі. З 1896 года лячылі, акрамя таго, прыгатаваным на месцы, пры ўдзеле запрошаных башкіраў, кумысам, якога рыхтавалася да 5 тыс. бутэлек у год. Праводзілася і кефіралячэнне. Шырока выкарыстоўваліся сонечныя, паветраныя ванны, гімнастыка, мясцовыя мінеральныя воды. Ёсць звесткі, што Якуб Атонавіч даваў для лячэння музычныя і гіпнатычныя сеансы. За лета тут праходзілі лячэнне каля 50 чалавек.

У канцы мінулага стагоддзя ў час навучання ў Слуцкай гімназіі паслугамі санаторыя карыстаўся і будучы паэт, пісьменнік і дзяржаўны дзеяч Язэп Дыла. Вось як ён сам гаварыў пра гэта: "Пасля такой сутычкі (з дырэктарам Слуцкай гімназіі, У. К.) я ўжо, зразумела, лічыўся ў гімназіі палітычна неблаганадзейным. А тут яшчэ дала сабе знаць ператомленасць ад шматлікіх прыватных урокаў, якія дзеля заробку прыходзілася даваць слуцкім мітрафанушкам. Мяне адправілі лячыцца ў кумысалячэбніцу доктара Наркевіча-Ёдкі, якая знаходзілася ля Пясочнага над Нёманам. Прыехаў я адтуль бадзёрым...".

Язэп Дыла захаваў удзячнасць да Я. Наркевіча-Ёдкі на ўсё жыццё. Нам здаецца, што змястоўны, узвышаны некралог аб смерці Я. Наркевіча-Ёдкі ў 1905 годзе ў газеце "Северо-Западный край" напісаў якраз Я. Дыла, бо ён у гэты час працаваў у газеце і лепейза іншых ведаў нашага вучонага.

Але хадзілі і іншыя чуткі, якія дасягнулі нашых дзён. Быццам бы ў санаторыі вучоны на сваіх пацыентах рабіў паспешлівыя і занадта рызыкоўныя вопыты, чаму і лячыў бясплатна. Магу засведчыць, што добрасумленнасць і гуманная накіраванасць урачэбнай дзейнасці Я. Наркевіча-Ёдкі не мае ніякіх падстаў для сумнення. Вось сведчанні сучаснікаў:

*"21 гэтага ліпеня 1902 года споўнілася 10 гадоў з часу заснавання вядомым вучоным Якубам Наркевічам-Ёдкам сваёй наднёманскай санаторыі.*

*У зале курсаў за багата дэкараванымі кветкамі, абедзенымі сталамі выказана шмат чулых і ўдзячных прамоў. Ёдку быў паднесены ўдзячны адрас і каштоўны падарунак. Вечарам адбыўся баль, які вельмі ажывілі некаторыя з прысутных дам, з'явіўшыся ў багатых цыганскіх касцюмах. Урачыстасць скончылася раскошным феерверкам.*

*Усё мясцовае грамадства, чым хто мог, старалася выказаць душэўную ўдзячнасць паважанаму юбіляру.*

*Атрымана было шмат дэпеш, адрасоў і лістоў з розных канцоў Расіі ад многіх прыхільнікаў нястомнага дзеяча Я. А."*

*Яшчэ адна навуковая звестка: "Адзначым таксама: выкарыстанне тэлефонаў да даследавання і адгадвання атмасферных з'яў і набліжэння навальніцы за некалькі гадзін да яе разраджэння, а таксама новыя вопыты пастаяннай электрызацыі пры перадачы гукаў у ізаляваных фонах". Трохі незразумелы тэкст удакладніў сам вучоны:*

*"У абсталяванай па маёй сістэме атмасферычнай станцыі ў тэлефонных апаратах чуўся моцны трэск, які прадказваў навальніцу. Інтэнсіўнасць электрычнай іскры ў акамулятарах значна паменшылася, у 4 3/4 гадзіны (29 чэрвеня 1890г.) апоўдні паказаліся на заходнім даглядзе вялікія з жоўтым адценнем хмары. У тэлефонах усё болей і болей выразна чуўся моцны шум і характарыстычны трэск. Нарэшце ў 5 г. 10 хв. грымнула навальніца...".*

Я. А. Наркевіч-Ёдка адным з першых летам 1890 года прымаў праз тэлефонныя навушнікі сігналы набліжэння навальніцы. Яго сістэма дазваляла выяўляць разрады маланак на адлегласці да 100 км і тым самым за некалькі гадзін прадказваць навальніцу Што гэта, калі не адзін з першых радыёпрыёмнікаў?

Але гэта не ўсё. Вучоны быў у тыя часы таксама ці не адзіным у свеце ўладальнікам бяздротавага перадатчыка электрычных сігналаў. 12 лютага 1891 года ён дэманструе ў Пецярбургу вопыт першага бяздротавага тэлеграфа. Такія ж вопыты ён потым паўтараў у Вене, Празе, Вільні, Мінску. Гэта падзея была засведчана і дакументамі Французкага фізічнага таварыства. Вось да якіх дасягненняў сусветнага значэння дайшоў наш сціплы вучоны! За вынаходства "бяздротавага тэлеграфа" ён павінен стаць нашым нацыянальным гонарам.

З часам Якуб Наркевіч-Ёдка прыйшоў да тэарэтычных перакананняў, што электрычнасць падпарадкоўваецца агульным законам фізікі, а іменна, што яна, падобна гуку і святлу, распаўсюджваецца хвалепадобнымі ваганнямі. Ён лічыў, што ўсе фізічныя з'явы — гэта следства разнавідных вагальных рухаў нейкага гіпатэтычнага бязважкага рэчыва, якое пранізвае і запаўняе ўвесь Сусвет — эфіра. Вагальныя рухі, уздзейнічаючы на часцінкі (малекулы) рэчыва, выклікаюць з'явы цяпла, святла, электрычнасці, механічнай сілы і г.д. Гэта абагульненне высокага навуковага ўзроўню. Якуб Атонавіч адмовіўся ад тэрміну "пустой" прасторы без матэрыі, энергіі, арганізаванасці. Дададзім, што ў той час яшчэ не быў адкрыты электрон. Фізічнае ж яму абгрунтаванне было дадзена толькі пасля смерці вучонага.

Тут нельга не спыніцца яшчэ на адным аспекце, вельмі характэрным для стылю работы і наогул усяго вобліку асобы вучонага. Гэта яго здзіўляючая прыгажосць думкі, што пастаянна выяўляецца праз яснасць, лагічнасць, даступнасць, прастату, даходлівасць, паслядоўнасць яе выражэння. Яна захоплівала яго субяседнікаў і калег.

...Некалькі гадоў таму ў Наднёмане здымаўся навукова-папулярны фільм пра Я.Наркевіча-Ёдку. Мне было цяжкавата патлумачыць работнікам тэлебачання сутнасць работ вучонага і я прапанаваў ім непасрэдна працы вучонага. І ўявіце: змест вучоных дакладаў быў зразумелы адразу, без усякіх паясненняў.

Безумоўна, прастата, тым болей у выкладанні складаных фізічных з'яў, заўсёды вынік вялікай напружанай працы па самаўдасканаленню.

...Якуб Атонавіч быў асцярожны ў разважаннях і высновах, прыдзірліва адносіўся да вынікаў працы, быў і строгім крытыкам, і суддзёй сваіх меркаванняў і гіпотэз. Ён у роўнай ступені даследуе поспехі і няўдачы, таму што, на яго думку, памылкі ў навуковых даследаваннях могуць быць павучальныя. У цэлым яму быў уласцівы матэрыялістычны светапогляд.

Вучоныя сувязі Я.Наркевіча-Ёдкі вельмі высокага ўзроўню. Яго працы рэферавалі Дз.Мендзялееў, А.Ваейкаў., А.Саветаў, Ф.Петрушэўскі, І.Боргман, В.Дакучаеў і дзесяткі вучоных з сусветнымі імёнамі з краін Заходняй Еўропы. Амаль кожны год ён ездзіў за мяжу для азнаямлення з навуковымі дасягненнямі, чытаў лекцыі, рабіў выставы сваіх работ. У еўрапейскіх архівах знаходзіцца асноўная частка яго вучоных работ. Цяжка пералічыць тыя ўстановы, якія лічылі сваім супрацоўнікам ці правадзейным членам нашага суайчынніка. У 1900 годзе магнетычнае аддзяленне міжнароднага вучонага кангрэса ў Парыжы абрала яго прэзідэнтам і паднесла яму дыплом прафесара электраграфіі і магнетызму.

За невядомыя нам заслугі перад Ватыканам рымскі папа Леў XIII надаў доктару Я.Наркевічу-Ёдку ганаровы тытул папскага камергера.

*Яшчэ адзін бок дзейнасці нашага вучонага.*

*"Дарэчы заўважым, што Я.Наркевіч-Ёдка далучаецца да таго кола сучасных вучоных, якія, не адмаўляючы пазітыўнага погляду на прыроду, у той жа час некалькі схільныя да містычнага светапогляду і цікавяцца ўсім таемным у прыродзе і т.зв. акультызмам (occulte — скрытае, патаемнае). Да гэтага кола належаць, як вядома, Ламбразо, Шарль Рышэ, Фламарыён, Роша і мн.інш" __ гаварылася ў адной з карэспандэнцый аб нашым даследчыку.*

Сапраўды, ён быў у цесных сувязях з французскім астраномам К.Фламарыёнам, дырэктарам Інстытута фізіятэрапіі ў Парыжы С.Барадзюком, адкрывальнікам парафіна баронам К.Рэйхенбахам, вядомым бактэрыёлагам Ш.Рышэ, прафесарам Політэхнічнай школы ў Парыжы дэ-Рашу, вынаходнікам супрацьдыфтэрытнай вакцыны Э.Ру з Францыі, італьянскім псіхіятрам У.Ламбразо. У той жа час яны ўсе ў той ці іншай ступені аддалі даніну містычным пошукам.

Яны лічылі, што акрамя вядомых фізічных сіл прыроды: цяпла, святла, электрычнасці і інш. — існуе яшчэ асобая, зусім адрозная ад іх, жыццёвая сіла. Усё існуючае падпарадкоўваецца ўздзеянню і ўплыву гэтай сілы, якую трэба прызнаць у адрозненне ад іншых фізічных сіл пачаткам разумным.

*"Гэтага ж (1896) года Наркевіч-Ёдка працягвае сваю работу ў Парыжы, карыстаючыся лабараторыяй доктара Барадзюка (пераемніка Ж.Шарко па Інстытуту фізіятэрапіі ў Парыжы), яго задушэўнага, шматгадовага сябра. Нават знаходзячыся ў розных гарадах Еўропы, абодва вучоныя падтрымлівалі сувязь паміж сабой з дапамогай лістоў і тэлепатыі. Гэта быў яшчэ адзін з праводзімых разам эксперыментаў... Доктар Baradue выканаў з гэтым кур'ёзным прыборам (біёметрам — вымяральнікам "жыццёвай энергіі", У.К.) цэлы рад здзіўляючых цікавых вопытаў. Адзін экземпляр прыбора ён перадаў Я.Наркевічу-Ёдку". Ён пісаў: "У электрычных даследаваннях п.Ёдкі я (ён, а не Я.А., У.К.) знайшоў пацвярджэнне існавання жыццёвага флюіда, над вывучэннем якога я сам працую, і пагэтаму даручаю П.Ёдку і прашу яго прадоўжыць пачатыя мной вопыты і даследаванні. Спецыяльна дзеля гэтага я перадаю яму апарат, які павінен служыць духоўнай сувяззю паміж намі, узаемна зразумеўшымі адзін аднаго і дапаўняючымі сябе ў філасофскіх поглядах на тайну жыцця".*

Сцвярджалася, што біёметр вельмі дакладна вызначае псіхічны стан пацыента, ён можа выкарыстоўвацца як псіхометр. І вось у гэтым сэнсе да біёметра добра дапасавалася электраграфія.

Сапраўды, нешта ў гэтым было. Якуб Атонавіч спрабаваў разабрацца ў тэлепатыі, добра валодаў прыёмамі гіпнатызму. Вядомы яго выраз: "Магніт таксама можа быць тэрапеўтам".

Але пра гэты бок дзейнасці вучонага звестак зусім мала і яны не сістэмныя. Таму зрабіць які-небудзь пэўны вывад у гэтай частцы пакуль што нельга. Матэрыялы сваіх "акультных" даследаванняў вучоны ніколі не падаваў і не публікаваў. Хутчэй за ўсё ён не меў дастатковых станоўчых вынікаў, як і не атрымалася зруху ў гэтай справе і ў наступнае стагоддзе. Хоць у апошні час усе сродкі інфармацыі літаральна перапоўнены апісаннем "дасягненняў", якія вось-вось дазволяць прарваць мяжу паміж матэрыяльным і ірацыянальным. Воз і цяпер там. Магчыма, на шчасце...

Як гаварылася вышэй, Якуб Атонавіч узначальваў, як участковы папячыцель, мясцовае таварыства народнай цвярозасці (на чале павятовага стаяў у той час вядомы краязнаўца А.К.Ельскі з Замосця). Па гэтай нагодзе праводзіўся нагаданы канцэрт народнай музыкі.

Уважліва прыглядаўся ён да неардынарных таленавітых прадстаўнікоў моладзі, сяго-таго падтрымліваў у вучобе, падлечваў у сваім "санаторыуме".

Дакладна вядома, што вучоны стварыў і доўгі час падтрымліваў калектыў народнай — гаворачы сённяшнімі словамі — самадзейнай творчасці. Адным з першых у губерніі Я.Наркевіч-Ёдка вызначыў для сваіх работнікаў-батракоў пенсіён па старасці, так званы "ласкавы хлеб".

Мясцовыя сяляне прыкмячалі, што памешчык раскопваў старажытныя курганныя пахаванні. Лічылі, што пан шукаў там золата, дакладней, залатую "шведскую труну". На самай справе, яго цікавіла багатае мінулае наднёманскага краю.

Працуючы ў імя навукі, Якуб Атонавіч зусім не клапаціўся аб сабе і, нягледзячы на перасцярогу ўрачоў, поўны новых задум і надзей, адправіўся за мяжу ў чарговую навуковую паездку. Там, у Вене, ён і памёр 6 лютага 1905 года (па ст.ст.).

Якуб Наркевіч-Ёдка як вучоны-ўніверсал і выдатны энцыклапедыст, не змог творча і нават фізічна перайсці праз мяжу нашага стагоддзя. Ён у сваіх пошуках застаўся ўбаку ад галоўнага напрамку навукі XIX стагоддзя — спецыялізацыі, у нечым нават вярнуўся на навуковыя пазіцыі XVIII ст., калі было прынята даследаваць натуру, пранікаць думкай у сутнасць прыроды, у свет, для натуралістаў заўсёды жывы, невычарпальна складаны. Такія вучоныя ўздымаліся ў сваіх пошуках да спасціжэння агульначалавечых праблем, праяўлялі свой талент на вялікіх абагульненнях філасофскага значэння.

Светапогляд, духоўнае і разумовае жыццё Я.Наркевіча-Ёдкі прасціраюцца да нашых дзён і ідуць у будучыню. Што важна — гэта сфера не застаецца нязменнай, бо яго спадчына асэнсоўваецца кожны раз па-свойму. З часам адны ідэі адыходзяць на другі план, як гэта было з электраграфіяй. Другія ў святле новых дасягненняў навукі і тэхнікі ўзнаўляюцца. Тут мы сустракаемся з жывым зменлівым вучоным — па-сутнасці нашым сучаснікам. Менавіта наш узровень ведаў можа стаць найбольш спрыяльным для рэалізацыі як навуковых, так і культурных ідэй Я.Наркевіча-Ёдкі.

Зусім верагодна, што некаторыя з эксперыментальных работ, толькі-толькі накіданых вучоным, пры ўважлівым аналізе змогуць паслужыць асновай для новых і больш дэталёвых даследаванняў. Такое ў гісторыі ўжо здаралася... Толькі для гэтага дзейнасць Я.Наркевіча-Ёдкі павінна быць прааналізавана з сучасных пазіцый і аб'ектыўна ацэнена комплекснымі аб'яднанымі намаганнямі фізікаў, фізіёлагаў, псіхолагаў, філосафаў. Акрамя пошукаў прац вучонага ў замежных архівах трэба пачаць шукаць сляды яго вялікай асабістай бібліятэкі. Усе кнігі, як і абсталяванне яго лабараторый, былі перададзены ў свой час ва ўрачэбныя і навучальныя ўстановы горада Мінска. Усё, як і арыгіналы электраграфій, знікла бясследна.

Галоўны вывад, аднак, застаецца непахісным: вучоны здолеў узвысіцца да філасофскага абагульнення сваіх прац і гіпотэз з адначасовым шырокім выкарыстаннем сваіх здабыткаў і вынаходстваў. "Ён вельмі блізкі да таго, каб сваімі работамі скласці новую эпоху ў гісторыі электрычнасці, падобна Эдысану ў свой час..."

Ідэі і імя вучонага прайшлі і вытрымалі выпрабаванне часам, яны ўвайшлі ў аналы гісторыі. Упэўнены, што іх месца, незалежна ад яе выкрутасаў, пераглядацца не будзе.

Вельмі вядомы пры жыцці, ушанаваны мноствам тытулаў і ўзнагарод, прадстаўлены ў дзесятках і сотнях артыкулаў у навуковых выданнях і перыядычным друку, вучоны пасля смерці быў адразу ж забыты. Ён нарадзіўся занадта рана, бо занадта наватарскімі і незвычайнымі былі яго ідэі. Так сталася, што і сляды далейшага яго лёсу многія мерыліся сцерці з нашай гісторыі. У гэтым пэўны трагізм яго асобы.

Сёння ёсць магчымасць паправіць становішча. Калі новае "адкрыццё" вучонага адбудзецца позна (такія апасенні ёсць: стагоддзе, якое мінула з часу яго найважнейшых адкрыццяў, нідзе і нічым не было адзначана), мы ўсе ад гэтага вельмі многа страцім. Цяпер важна не ўпусціць 150-годдзе з дня яго нараджэння, бо інакш зноў спраўдзіцца наш адвечны падыход, пра які гаварылася на прыкладзе нашага вучонага яшчэ пры яго жыцці: "Мы... не ўмеем цаніць сваіх выдатных людзей, у прыватнасці тых, хто працуе на ніве навукі. Мы тады ставімся з увагай да сваіх каштоўнасцей, калі яны папярэдне прагрымяць славай на Захадзе". Сёння, здаецца, і гэтай умовы ўжо недастаткова.

Уладзімір КІСЯЛЁЎ,
кандыдат эканамічных навук.

У СУВЯЗІ СА ШМАТЛІКІМІ ПІСЬМАМІ І ЗВАНКАМІ Ў РЭДАКЦЫЮ "НАСТАЎНІЦКАЙ ГАЗЕТЫ" І НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНЫ ЦЭНТР ВУЧЭБНАЙ КНІГІ І СРОДКАЎ НАВУЧАННЯ НАКОНТ НАВУЧАЛЬНЫХ ДАПАМОЖНІКАЎ ПА СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ ПАВЕДАМЛЯЕМ, ШТО НАВУЧАЛЬНЫ ДАПАМОЖНІК ДЛЯ 10 КЛАСА ВЫЙШАЎ З ДРУКУ Ў ВЕРАСНІ ГЭТАГА ГОДА. АДНАК, НА ЖАЛЬ, НЕ ЎСЕ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ ЯГО АТРЫМАЛІ. ЗАТРЫМЛІВАЕЦЦА ВЫХАД ДАПАМОЖНІКА ДЛЯ 7 КЛАСА. ТАМУ "НАСТАЎНІЦКАЯ ГАЗЕТА" ПРАЦЯГВАЕ ПУБЛІКАВАЦЬ СТАРОНКІ НОВЫХ ДАПАМОЖНІКАЎ ПА СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ.

# СУСВЕТНАЯ ГІСТОРЫЯ, 10 КЛАС

## ЦЫВІЛІЗАЦЫІ АНТЫЧНАСЦІ

## Станаўленне і развіццё старажытнагрэчаскай цывілізацыі

Крыт, Балканскі паўвостраў, Малая Азія — найстаражытнейшыя ачагі зараджэння еўрапейскай цывілізацыі, якія датуюцца III—II тыс. да н.э. Гэты перыяд увайшоў у гісторыю як крыта-мікенскі і мінойскі. Структурай тыповага раннедзяржаўнага ўтварэння сталі дзесяткі аграрных пасяленняў, падуладных цэнтральнаму дварцу-цытадэлі. Тып эканомікі, які склаўся тут, шмат у чым быў блізкім эканамічнай сістэме краін Блізкага Усходу. Гэтае падабенства — вынік актыўных кантактаў краін Міжземнамор'я ў эпоху зараджэння першых цэнтраў цывілізацыі ў Еўропе. У канцы II тыс. да н.э. на Балканы прыйшлі ваяўнічыя плямёны дарыйцаў, якія знаходзіліся на больш нізкай ступені развіцця: грэчаскі свет аказаўся адкінутым далёка назад. І толькі ў Гамераўскі перыяд (XI—IX ст. да н.э.) развіццё пачынаецца быццам нанава, але ў зусім іншых формах. Рашаючую ролю ў станаўленні гэтых форм адыграла асваенне грэкамі выплаўкі і апрацоўкі жалеза. Ужо ў X ст. да н.э. Грэцыя становіцца адным з вядучых ачагоў усяго Усходняга Міжземнамор'я.

У архаічны перыяд (VIII—VI ст. да н.э.) у грэкаў усталяваліся прыватнаўласніцкія адносіны, узнікла таварная вытворчасць, а з ёю і гандаль. Поліс (дзяржава), які фарміраваўся, дасягнуў найвышэйшага росквіту ў наступны перыяд, калі грэкі ў сваім развіцці далёка абагналі суседнія народы, у тым ліку і краіны Старажытнага Усходу.

### §10. ПОЛІСНАЯ ДЗЯРЖАВА І ЯЕ ІНСТЫТУТЫ

Вынікам працэсу развіцця грэкаў стала паяўленне на тэрыторыі Балканскай Грэцыі, у Эгейскім басейне і на асвоенай грэкамі каланіяльнай перыферыі каля 500 з лішнім дробных дзяржаўных утварэнняў, або полісаў. Кожны грэчаскі поліс быў суверэннай дзяржавай і меў свой урад, свае ўласныя законы і сваё апалчэнне. Поліс займаў тэрыторыю асобнага вострава, невялікай даліны або прыбярэжнай лініі і меў выхад да мора. Мора з'яўлялася галоўнай транспартнай магістраллю грэкаў. Полісная дзяржава кіравалася саўладальнікамі абшчыннага зямельнага фонду і выбранымі імі магістратамі. Свае правы трымальнікі надзелаў ажыццяўлялі ў народным сходзе, галоўным заканадаўчым органе полісяай дзяржавы. Апалчэнне грамадзян-землеўладальнікаў, якія ўзбройваліся на свае ўласныя сродкі, было ядром узброеных сіл усякага поліса. Прычым у залежнасці ад велічыні зямельнага надзелу або даходаў з яго дыферэнцыраваліся і палітычныя правы і іх ваенныя абавязкі. Поліс мог існаваць толькі пры параўнальна невялікіх памерах тэрыторыі і колькасці грамадзянскага калектыву.

Пры ўсёй разнастайнасці полісных дзяржаў сярод іх можна вылучыць два вядучыя тыпы — дэмакратычны і алігархічны. Прыкладам дэмакратычнага поліса з'яўляюцца Афіны, алігархічнага — Спарта. Разгледзім іх палітычны лад і сацыяльную структуру.

АФІНСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ. Старажытнагрэчаскі мысліцель Арыстоцель (IV ст. да н.э.) напісаў працу па гісторыі афінскага поліса — "Афінскую палітыю". Усякі класічны поліс меў, згодна з Арыстоцелем, рэспубліканскі лад. Вярхоўная ўлада і заканадаўства належалі ў полісе народнаму сходу. У абмеркаванні пытанняў і галасаванні павінны былі ўдзельнічаць усе свабодныя грамадзяне, якія дасягнулі 20-гадовага ўзросту, незалежна ад іх маёмаснага становішча. Прадстаўнічая сістэма адсутнічала, рашэнне прымалася толькі тымі грамадзянамі, якія з'явіліся на пасяджэнне савета або народнага сходу. У перакладзе на рускую мову слова "рэспубліка" азначае "агульная" або "грамадская справа". Аднак бяднейшыя грамадзяне і жыхары аддаленых пасяленняў не маглі часта прыходзіць у Афіны, і таму кворум, які патрабаваўся для вырашэння асабліва важных пытанняў, складаў 5—6 тыс. чалавек пры агульнай колькасці 30—40 тыс. полісных грамадзян. У пачатку IV ст. да н.э. было прынята рашэнне аб выдачы ўдзельнікам народнага сходу платы ў памеры 3 аболаў (сярэдні дзённы заработак рамесніка). Народны сход, які збіраўся каля 40 разоў у год, не мог аператыўна вырашаць бягучыя пытанні, якія знаходзіліся ў распараджэнні выбарных службовых асоб, магістратаў. Перш за ўсё гэта былі члены савета 500, рабочага органа народнага сходу. Савет рыхтаваў парадак народных сходаў, а ў прамежках паміж імі ажыццяўляў кіраўніцтва бягучымі справамі. Члены савета выбіраліся па жэрабю з некалькіх кандыдатаў, якія дасягнулі 30-гадовага ўзросту. Паўторнае выбранне на любую пасаду, у тым ліку і ў савет 500, не дапускалася. Члены савета атрымлівалі штодзённае жалаванне ў памеры 5—6 аболаў. Бюракратыі, гэта значыць пастаяннага штату чыноўнікаў, у полісе не існавала. Усе полісныя магістратуры былі выбарнымі, кароткатэрміновымі (гадавыя) і калегіяльнымі (не менш за 2 чалавекі). Гадавы тэрмін паўнамоцтваў і парадак чарговасці замяшчэння пасад дазвалялі прыцягваць да дзяржаўнай дзейнасці амаль усіх афінскіх грамадзян. Так, філасаф Сакрат, які прынцыпова ўхіляўся ад актыўнай палітычнай дзейнасці, усё ж быў аднойчы членам савета 500. Па сканчэнні тэрміну паўнамоцтваў кожны магістрат рабіў справаздачу аб сваёй дзейнасці. Пры выяўленні парушэнняў або якіх-небудзь махінацый экс-магістрат прыцягваўся да суда. Калі абвінавачанне пацвярджалася, ён пакідаў родны поліс і ішоў у выгнанне.

Самай шматлікай калегіяй з'яўляўся афінскі суд прысяжных, куды любы грамадзянін мог звярнуцца са скаргай або іскам. Шляхам жэраб'ёўкі ў суд выбіраліся штогод 5 тыс. дзеючых суддзяў і 1 тыс. запасных. Яны дзяліліся на камісіі па 500 чалавек і жэрабем (з мэтай выключыць подкуп) размяркоўваліся па судовых памяшканнях. Для разгляду асабліва важных спраў аб'ядноўвалася некалькі камісій. Адвакаты не дапускаліся, суддзі прымалі рашэнне толькі на падставе довадаў, якія прыводзіліся бакамі. Таму распаўсюджанай з'явай было прыцягненне лагаграфаў, складальнікаў прамоў для тых, хто ўдзельнічае ў цяжбе. Апошнія не толькі зачытвалі падрыхтаваную прамову, але і выкарыстоўвалі не зусім прыстойныя прыёмы псіхалагічнага і эмацыянальнага ціску на суддзяў (спрабавалі іх расчуліць, прыводзілі ў суд дзяцей, якія плакалі, і г.д.). Рашэнне прымалася тайным галасаваннем, простай большасцю галасоў і абскарджанню не падлягала. Каб папярэдзіць паяўленне новых тыранаў і захаваць дэмакратычны лад, яшчэ ў канцы VI ст. да н.э. у Афінах быў уведзены так званы астракізм, або "суд чарапкоў" (ад слова "астракон" — гліняны чарапок). Раз у год старшыня народнага сходу звяртаўся да афінскага дэмасу з пытаннем: ці няма ў Афінах чалавека, які пагражае народаўладдзю? Кожны грамадзянін мог напісаць на чарапку імя любога падазронага, на яго думку, палітыка. У выніку той, хто "набраў" 5 тыс.чарапкоў, павінен быў пайсці на 10 гадоў у выгнанне. Але ўжо ў V ст. да н.э. астракізм стаў сродкам устаранення палітычных праціўнікаў і мог быць накіраваны супраць любога дзяржаўнага дзеяча. Вельмі важнай была і калегія 10 стратэгаў, члены якой па чарзе камандавалі апалчэннем, а ў мірны час былі грамадскімі кіраўнікамі афінскага поліса. У адрозненне ад іншых магістратур дапускалася пераабранне стратэгаў, паколькі гэта пасада патрабавала асобай падрыхтоўкі і прафесійных навыкаў. Стратэгамі станавіліся, як правіла, заможныя людзі, якія мелі спецыяльную адукацыю. Асноўным прынцыпам дзейнасці полісных органаў улады была іх адкрытасць і падсправаздачнасць народнаму сходу. Любы грамадзянін меў права паставіць на абмеркаванне якое-небудзь пытанне або выступіць з прапановай. Аднак прымусіць шматтысячную аўдыторыю слухаць, а тым больш пераканаць яе ў нечым, мог толькі вопытны палітык і ўмелы прамоўца. Рыторыка, мастацтва красамоўства, была адным з абавязковых прадметаў сістэмы адукацыі старажытных грэкаў.

Полісная дзяржава апіралася на сукупны калектыў грамадзян, або грамадзянскі калектыў. Да грамадзян поліса належалі карэнныя жыхары Атыкі, якія валодалі спадчынным зямельным участкам. Яны прымалі актыўны ўдзел у дзейнасці народных сходаў і мелі месца ў фаланзе цяжкаўзброеных гаплітаў. Тыя, хто прыбыў на жыхарства з іншых грэчаскіх гарадоў, складалі асобае саслоўе "неграмадзян", па-грэчаску метэкаў. Метэкі былі асабіста свабоднымі людзьмі і займаліся, як правіла, рамяством і гандлем. Сярод іх сустракаліся багатыя купцы і ўладальнікі рамесных майстэрань. Метэкі плацілі ў казну поліса асобы падатак за права на жыхарства і на займанне сваёй справай. Паўнапраўныя грамадзяне падаткамі не абкладаліся, і таму фінансавае становішча поліса знаходзілася ў пастаяннай залежнасці ад узроўню яго эканамічнага развіцця, знешнепалітычных поспехаў і гатоўнасці багатых грамадзян траціць свае сродкі на агульныя патрэбы: правядзенне за свой кошт тэатральнага відовішча, арганізацыю гімнастычных спаборніцтваў, абсталяванне ваеннага судна і г.д.

Антычны поліс не мог існаваць без рабоў. Гэта тлумачыцца, па-першае, высокай арганізацыяй таварнай вытворчасці, заснаванай на ручной працы, па-другое, наяўнасцю пастаяннай крыніцы папаўнення рабоў, якой з'яўлялася варварская перыферыя грэчаскага свету. Асноўная катэгорыя рабоў у Атыцы былі рабы-іншаземцы. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што антычнае грамадства лёгка магло абыходзіцца працай свабодных, але сам факт наяўнасці мноства рабоў параджаў паразітарныя настроі ў свабодных грамадзян. Гэта значыць, рабства адных гарантавала свабоду другіх. Нават у эпоху так званага класічнага рабства ў Грэцыі (V—IV ст. да н.э.), звязанага з таварнай вытворчасцю, побач з рабствам суіснавалі і такія формы эксплуатацыі залежнага насельніцтва, як кліентэла, вольнаадпушчальніцтва і арэнда. Кліентамі з'яўляліся, як правіла, збяднелыя сваякі і іншыя нязнатныя члены сем'яў антычнай арыстакратыі. Што ж датычыцца арэнды, то яна была звязана з фондам дзяржаўнай зямлі. У цэлым у Грэцыі не хапала зямель, прыдатных для апрацоўкі. Скалістая неўрадлівая глеба не спрыяла экстэнсіўнаму земляробству, што прыводзіла да непазбежнасці індывідуальнай апрацоўкі зямлі і адсутнасці значных дзяржаўных уладанняў. Грамадскія землі належалі ў полісе асобным групам грамадзянскага калектыву на правах арэнды. Даходы з гэтых зямель ішлі ў полісную казну.

Самай шматлікай праслойкай афінскага грамадства былі дробныя свабодныя вытворцы — сяляне-земляробы (уласнікі або арандатары невялікіх участкаў зямлі), уладальнікі невялікіх рамесных майстэрань і рамеснікі, якія ў іх працуюць, рознічныя гандляры, падзёншчыкі, матросы і, нарэшце, бедны гарадскі люд. Нярэдка людзі, якія страцілі сувязь з зямлёй і жылі на выпадковыя заработкі, высяляліся ў калоніі, дзе ім даваўся зямельны ўчастак. Асноўнай рабочай сілай у дробнай вытворчасці была праца самога земляроба або рамесніка і членаў іх сем'яў.

СПАРТАНСКІ ПОЛІС. У спартанскім полісе не было гарадскога цэнтра. Ён складаўся з 5 аграрных пасяленняў, размешчаных на паўднёвым усходзе Пелапанеса. Як дзяржаўнае ўтварэнне Спарта насіла назву Лакедэмон. Узнікненне лакедэмонскай дзяржавы звязана з рассяленнем на тэрыторыі Спарты грэкаў-дарыйцаў і заваяваннем імі багатай урадлівай суседняй вобласці Месеніі. Уся зямля ў Лаконіі і Месеніі была падзелена на роўныя ўчасткі — клеры, якія сталі пажыццёвым уладаннем спартыятаў, патомкаў дарыйцаў. Аднак апрацоўвала зямлю спартыятаў заняволенае імі мясцовае насельніцтва, якое атрымала агульную назву ілотаў. Ілоты валодалі прыладамі працы і мелі поўную гаспадарчую самастойнасць. Іх галоўным абавязкам было ўтрыманне спартыятаў, зусім не занятых вытворчай працай. Пазбаўленыя ўсіх палітычных правоў, ілоты цалкам залежалі ад сваіх гаспадароў, якія распараджаліся не толькі іх маёмасцю, але і жыццём. Таму некаторыя вучоныя лічаць ілотаў дзяржаўнымі рабамі. Яшчэ адной сацыяльнай групай спартанскага грамадства былі перыэкі ("якія жывуць вакол"). Як і спартыяты, перыэкі былі лакедэмонцамі, гэта значыць патомкамі дарыйцаў, і таму служылі ў спартанскай арміі. Але яны не прымалі ўдзелу ў народным сходзе і жылі сваімі абшчынамі, адасоблена ад спартыятаў. Перыэкі займаліся земляробствам, рамяством і гандлем, неслі працоўныя павіннасці і плацілі дзяржаве невялікі падатак. З юрыдычнага пункту погляду гэта былі свабодныя людзі з няпоўнымі грамадзянскімі правамі. Усёй паўнатой правоў валодалі ў Лакедэмоне спартыяты, прадстаўнікі "абшчыны роўных", якія з'яўляліся прафесійнымі воінамі. Уся сістэма спартанскага выхавання была накіравана на фарміраванне ідэальнага воіна. Гэта тлумачыцца перш за ўсё тым, што паўнапраўныя грамадзяне былі ў меншасці. У час росквіту Лакедэмонскай дзяржавы колькасць спартыятаў не перавышала 10 тыс. чалавек. Баючыся паўстанняў заняволенага насельніцтва, яны павінны былі быць арыентаваны на пастаянную баявую гатоўнасць. Немалаважную ролю адыгрывала і поўная самаізаляцыя Спарты, яе свядомае абмежаванне кантактаў са знешнім светам. З 7-гадовага ўзросту спартанскія хлопчыкі пасяляліся асобна ад сям'і, і дзяржава брала на сябе ўсе клопаты аб іх выхаванні і навучанні. Асноўным заняткам дзяцей у своеасаблівых ваенізаваных школах былі гімнастыка і харавое выкананне маршаў. Вялікая ўвага ўдзялялася выпрацоўцы неадчувальнасці да болю.

Тэндэнцыя да ізаляцыі ўжо ў VI ст. да н.э. прывяла да ўзмацнення кансерватыўных, застойных з'яў у развіцці Спарты. Спрабуючы захаваць старыя асновы, Спарта ўвяла ў сябе толькі дробную жалезную манету. Існавала найстражэйшая рэгламентацыя ўсіх бакоў жыцця грамадзян. Раскоша ў быце не дапускалася, забаранялася карыстацца золатам і срэбрам. Усе спартыяты насілі аднолькавыя кароткія плашчы і таму лічылі сябе роўнымі. Дасягнуўшы 20 гадоў, малады спартыят станавіўся членам супольнасці роўных. Ад гэтага часу ён прымаў удзел у сумесных воінскіх трапезах — сісітыях, удзельнікі якіх хадзілі разам як на паляванне, так і на вайну. Спартыяты лічыліся лепшымі воінамі ў межах усяго грэчаскага свету, як славілася ва ўсёй Грэцыі і выдатная лаконская зброя.

Дзяржаву Лакедэмон узначальвалі два цары, якія выконвалі функцыі военачальнікаў, суддзяў і жрацоў. Яны павінны былі быць старэйшымі за 60 гадоў і ўваходзіць у савет старэйшын, або герусію. Спартыяты лічылі, што толькі ўзрост прыносіць вопыт і мудрасць. Уся паўната выканаўчай улады належала ў спартанскім полісе калегіі 5 наглядчыкаў, або эфораў, якія штогод выбіраліся народным сходам. Эфоры кіравалі пасяджэннямі герусіі і рыхтавалі разам з ёй парадак народных сходаў. У адрозненне ад афінскага спартанскі народны сход не абмяркоўваў пытанні, а толькі галасаваў па іх. Права ўдзелу ў народным сходзе мелі спартыяты, якія дасягнулі 30-гадовага ўзросту. Эканоміка Лакедэмонскай дзяржавы мела натуральны характар з абсалютнай перавагай у ёй сельскагаспадарчай вытворчасці. Знешні гандаль фактычна знаходзіўся пад забаронай, а ўнутраны развіваўся вельмі слаба. У рамястве працвіталі толькі тыя галіны, якія былі звязаны з ваеннай справай.

1. Раскрыйце сутнасць поліснай дзяржавы. 2 Якой з'яўлялася афінская дэмакратыя? Назавіце яе важнейшыя інстытуты (органы). 3. Што такое астракізм? 4. З якіх груп грамадзян складаўся полісны калектыў? 5. Якія формы эксплуатацыі залежнага насельніцтва існавалі ў Старажытнай Грэцыі? 6. Раскажыце аб палітычным ладзе і сацыяльнай структуры Спарты. 7. Якія тыпы полісаў можна вылучыць?

### §11. УНУТРЫПАЛІТЫЧНЫ КРЫЗІС У ГРЭЦЫІ І ЎЗВЫШЭННЕ МАКЕДОНІІ. ЭЛІНІЗМ

Грэка-персідскія войны з усёй нагляднасцю паказалі, што палітычна раздробленая Грэцыя не можа процістаяць любой сур'ёзнай небяспецы звонку. Неабходнасць аб'яднання дробных гарадоў-дзяржаў у адзінае цэлае дыктавалася і характарам поліснай эканомікі, арыентаванай на абмен і гандаль як з суседнімі гарадамі, так і з чужаземнымі краінамі і калоніямі.

У гады вайны з Персіяй узнік першы агульнагрэчаскі саюз полісаў з цэнтрам на востраве Дэлас. Па-грэчаску абарончы і наступальны ваенны саюз полісаў называўся сімахіяй ("баявым саюзам"). У Дэласкай сімахіі, якая аб'ядноўвала каля 250 полісаў, пераважалі прыморскія і астраўныя грэчаскія дзяржавы, эканоміка якіх была цесна звязана з морам і марскім гандлем. Панаванне Афін на моры, іх моцны флот, а галоўнае — вядучая роля ў адбіцці нашэсця персаў зрабілі Афіны лідэрам Дэласкага саюза. У хуткім часе агульнасаюзнае кіраўніцтва і казна перамясціліся з Дэласа ў Афіны.

Спарта, другі буйнейшы поліс Грэцыі, узначальвала Пелапанескі саюз, або лігу. Кожны член Пелапанескай лігі ў выпадку вайны выстаўляў 2/3 сваёй сухапутнай арміі, а для марскіх баёў прыморскія гарады пастаўлялі караблі. Саюзнікі захоўвалі поўную палітычную і эканамічную самастойнасць, але вярхоўнае камандаванне аб'яднанай арміяй належала Спарце. Паколькі ў знешняй палітыцы Пелапанескі саюз дзейнічаў у інтарэсах арыстакратаў і алігархаў, ён характарызуецца звычайна як аб'яднанне алігархічных полісаў Грэцыі. У Сярэдняй Грэцыі існаваў яшчэ адзін саюз полісаў, так званая Дэльфійская амфіктыёнія. Амфіктыёніямі называліся групоўкі полісаў, якія аб'ядноўваліся вакол якога-небудзь рэлігійнага цэнтра. Буйнейшым такім цэнтрам у маштабах усёй Грэцыі было свяцілішча Апалона-прадказальніка ў Дэльфах, жрыцы якога давалі парады як прыватным асобам, так і буйным палітычным і ваенным дзеячам.

ПЕЛАПАНЕСКАЯ ВАЙНА. КРЫЗІС ПОЛІСНАЙ СІСТЭМЫ. Раўнавага двух наймацнейшых у Грэцыі ваенна-палітычных саюзаў, Афінскага і Пелапанескага, якая склалася пасля вайны з персамі і замацавалася мірам 445 г. да н.э., была хутка парушана. Пачынаючы з 431 па 404 г. да н.э., адбылася цэлая серыя войнаў (яны аб'яднаны ў літаратуры агульнай назвай Пелапанеская вайна) за панаванне ў Грэцыі. Галоўнымі ўдзельнікамі ваенных дзеянняў з'яўляліся Афіны і Спарта, але ў барацьбу былі ўцягнуты ўсе буйнейшыя полісы Грэцыі. Адны з іх падтрымлівалі дэмакратычныя Афіны, другія — алігархічную Спарту. Афіняне вялі актыўныя дзеянні на моры. Спарта, маючы моцную сухапутную армію, некалькі разоў урывалася ў Атыку і спусташала яе. Каб стварыць свой флот і знішчыць магутнасць Афін на моры, Спарта звярнулася за субсідыямі да Персіі. Так персідскія цары атрымалі магчымасць рукамі спартанцаў разбурыць Афінскую марскую дзяржаву, у якую ўваходзілі малаазійскія грэчаскія гарады, аб'ект дамаганняў Персіі.

Знясільваючая вайна, якая працягвалася амаль тры дзесяцігоддзі, не толькі падарвала матэрыяльныя і маральныя сілы грэкаў, але і зноў раз'яднала іх палітычна. Краіна знаходзілася ў стане раздробленасці, якая прывяла да разрыву былых эканамічных сувязей. У рамках асобных полісаў абвастрыліся ўзаемаадносіны паміж багатымі і беднымі, дэмасам і арыстакратыяй.

УЗВЫШЭННЕ МАКЕДОНІІ. ПАДПАРАДКАВАННЕ ЁЮ ГРЭЧАСКІХ ПОЛІСАЎ. Пастаянныя ваенныя канфлікты полісаў паказалі, што ў Грэцыі не было дзяржавы, здольнай аб'яднаць краіну і даць ёй магчымасць мірнага і спакойнага развіцця. У гэты час на поўначы Балканскага паўвострава паступова набірала сілу Македонія. У сваім развіцці яна адставала ад перадавых грэчаскіх гарадоў — распад родаплемянных адносін і фарміраванне дзяржавы прыйшліся тут на V ст. да н.э.

Канчатковае афармленне Македоніі як цэнтралізаванай дзяржавы завяршылася толькі ў сярэдзіне IV ст. да н.э., калі да ўлады ў краіне прыйшоў Філіп II (гады праўлення 359—336 гг. да н.э.). Ён рэарганізаваў армію, якая складалася з пяхоты, конніцы і сапёрных часцей, і правёў серыю паспяховых знешнепалітычных акцый. У выніку Македонія атрымала выхад да марскога ўзбярэжжа і авалодала багатай будаўнічым лесам і металамі Фракіяй. Фракійскае золата дазволіла Філіпу наладзіць выпуск уласнай залатой манеты і з'явілася эканамічнай базай хуткага ўздыму краіны. Будучы цвярозым палітыкам і тонкім дыпламатам, умела выкарыстоўваючы як ваенную сілу, так і подкуп, македонскі цар за вельмі кароткі тэрмін змог падпарадкаваць сабе ўсю Грэцыю. Цар пачынае ў Грэцыі тонкую палітычную гульню з улікам імкнення грэкаў адпомсціць Персіі за знявагу іх святынь у час грэка-персідскіх войнаў. Выкарыстоўвае ён і прамы падкуп вядомых грэчаскіх палітыкаў. Але ў Грэцыі было і нямала бескарыслівых прыхільнікаў Македоніі, якія меркавалі, што ўстанаўленне яе ўлады прынясе краіне мір і аб'яднае грэкаў на вайну з Персіяй.

УСХОДНІЯ ПАХОДЫ АЛЯКСАНДРА МАКЕДОНСКАГА І СТВАРЭННЕ ІМ НОВАЙ СУСВЕТНАЙ ДЗЯРЖАВЫ. Аляксандр Македонскі (гады праўлення 336—323 гг. да н.э.) — адзін з самых вядомых антычных палкаводцаў і заваёўнікаў. Падзеі дастаткова кароткага перыяду яго праўлення вызначылі развіццё Грэцыі і прылягаючых да яе, асабліва на Усходзе, краін на некалькі стагоддзяў уперад. У гісторыі Старажытнай Грэцыі гэты час абазначаны як пераходны ад класічнага перыяду да элліністычнага.

Пакараўшы смерцю забойцаў бацькі, Аляксандр пачынае старанную падрыхтоўку супраць Персіі. Яго армія пры выступленні склала 30 тыс. пяхоты, 5 тыс.конніцы і 160 ваенных караблёў. Войска мела добра падабраны штаб, уключаючы і разведку, і было аснашчана сапёрнай тэхнікай. У 334 г.да н.э. Аляксандр пачынае 10-гадовы паход на Усход. Пачатковай і, відаць, мінімальнай задачай палкаводца была ліквідацыя ўлады персаў на Усходнім Міжземнамор'і. З гэтай мэтай Аляксандр спачатку падпарадкоўвае заходнія часткі Малой Азіі, а затым Фінікію і Егіпет.

Другі этап усходняга паходу грэка-македонскай арміі звязаны з падпарадкаваннем Месапатаміі, найбольш багатай і заселенай тэрыторыі дзяржавы Ахеменідаў. У рашаючай схватцы пры Гаўгамелах у кастрычніку 331 г. да н.э. Аляксандр нанёс сакрушальнае паражэнне персам.

Далей Аляксандр накіраваў сваё войска ў Бактрыю і Сагдыяну, куды адступілі рэшткі персідскай арміі. Перайшоўшы Гіндукушскія хрыбты, Аляксандр спусціўся ў даліну Амудар'і. Заваяванне паўднёвых абласцей Сярэдняй Азіі аказалася самай складанай часткай яго паходу. Тут пачалася сапраўдная народная вайна супраць заваёўнікаў, якая працягвалася каля трох гадоў.

Пасля вяртання з Індыі Аляксандр рашуча падавіў усе сепаратысцкія настроі пры двары і ў арміі паспрабаваў аб'яднаць заваяваныя тэрыторыі ў адзінае палітычнае і нацыянальнае цэлае. Для гэтага ў Сузах было наладжана грандыёзнае вяселле: у адзін дзень каля 10 тыс. яго воінаў ажаніліся з дзяўчатамі заваяваных усходніх дзяржаў. На падпарадкаваных тэрыторыях засноўваюцца новыя гарады, якія засяляюцца македонскімі і грэчаскімі каланістамі. Ахоплены прагай далейшых заваяванняў, Аляксандр загадаў будаваць вялікі флот і пачаў камплектаваць новую армію. У яе склад ён уключыў 30 тыс. юнакоў-персаў. Аднак у 323 г. да н.э. вялікі палкаводзец старажытнасці неспадзявана памёр ад прыступу жорсткай ліхаманкі.

ЭЛІНІСТЫЧНЫЯ ДЗЯРЖАВЫ. Створаная Аляксандрам Македонскім дзяржава распасціралася ад Егіпта да берагоў Інда, ад Чорнага мора на поўначы да Персідскага заліва на поўдні. Сацыяльна-эканамічныя, палітычныя, этнічныя і культурныя адрозненні ўнутры гэтай велізарнай імперыі прадвызначылі яе хуткі распад. Пераемнікі Аляксандра, былыя яго палкаводцы, некалькі дзесяцігоддзяў вялі барацьбу за валоданне гэтымі тэрыторыямі. У выніку на руінах імперыі Аляксандра ўзнікла некалькі самастойных дзяржаў, якія атрымалі назву эліністычных. Іх узнікненне і развіццё вылучаны ў гісторыі Старажытнай Грэцыі ў самастойны, эліністычны перыяд (III—I ст. да.э.).

Адной з першых эліністычных дзяржаў стаў Егіпет. Яго сатрапам быў адзін з бліжэйшых паплечнікаў Аляксандра, Пталамей. У самым канцы IV ст. да н.э. ён абвясціў сябе царом і стаў заснавальнікам егіпецкай дынастыі Пталамеяў. Царства Пталамеяў валодала радам тэрыторый і за межамі Егіпта, якія захоўвалі сваё самакіраванне, але пад кантролем царскіх намеснікаў. На тэрыторыі былой Персідскай дзяржавы к пачатку III ст. да н.э. склалася яшчэ адна буйная эліністычная дзяржава, заснаваная палкаводцам Аляксандра Селеўкам. Царства Селеўкідаў было кангламератам плямён, якія не мелі асноўнага этнічнага ядра. Яго ўскраінныя часткі хутка адпалі і ў сярэдзіне III ст. да н.э. на поўдні сучаснага Туркменістана і на паўночным усходзе Ірана ўзнікла Парфянскае царства, а ў Сярэдняй Азіі ўтварылася Бактрыйская дзяржава. Існавалі і дробныя эліністычныя дзяржавы, самымі ўплывовымі з якіх з'яўляліся размешчаныя на паўночным захадзе Малой Азіі Пергамскае царства і каля паўднёва-заходняга ўзбярэжжа Малой Азіі астраўная Радоская дзяржава. Пергам і Радос мелі важнае стратэгічнае значэнне і былі цэнтрамі міжнародных караванных і марскіх дарог. Усе гэтыя дзяржавы ў II—I ст. да н.э. падпарадкаваў Рым.

СУТНАСЦЬ ЭЛІНІЗМУ. Эліністычнай цывілізацыяй прынята называць новую ступень у развіцці матэрыяльнай і духоўнай культуры, форм палітычнай арганізацыі і сацыяльных адносін народаў Міжземнамор'я і Пярэдняй Азіі. У палітычнай структуры эліністычных дзяржаў спалучаліся элементы як усходняй манархіі, так і поліснай арганізацыі. Тут існавала царская ўлада і шматлікі цэнтральны апарат кіравання, але буйныя гарады карысталіся самакіраваннем і пэўнай аўтаноміяй. Падпарадкаванне гэтых гарадоў цэнтральнай уладзе выражалася ва ўплаце падаткаў і адсутнасці ў гарадоў самастойнасці ў пытаннях знешняй палітыкі. На тэрыторыі гарадоў пражывала ў асноўным грэка-македонскае насельніцтва — рамеснікі, купцы, гандляры, якія перасяліліся на ўсход у час паходаў арміі Аляксандра. Праз гэтых каланістаў і адбывалася распаўсюджванне полісных парадкаў і поліснай культуры, грэчаскай мовы і грэчаскіх норм права. У гарадах дзейнічалі савет, магістраты і народны сход. Буйнейшымі эліністычнымі гарадамі былі Александрыя, Пергам, Антыохія і іншыя.

Калі ў эліністычных гарадах пераважаў грэчаскі ўплыў, то ў вёсцы былі моцныя мясцовыя, усходнія традыцыі. У эпоху элінізму ўстанаўліваюцца больш трывалыя ўнутраныя сацыяльна-эканамічныя сувязі, пашыраецца гандлёвы абмен паміж Блізкім Усходам і Грэцыяй, адбываецца рост рамеснай вытворчасці.

У другой палове I тыс. да н.э. найбольшы прагрэс адбыўся ў галіне рамесных ручных прылад працы. Былі вынайдзены інструменты, якія з невялікай мадэрнізацыяй ідуць у хаду па сённяшні дзень. Перш за ўсё гэта шрубы і балты для прасавання аліў і вінаграду. Гэта ўстройства ўяўляла пасудзіны, закрытыя накрыўкай, на якую ціснула драўляная шруба, што праходзіла праз цвёрда замацаваную перакладзіну. Ва ўсім антычным свеце была распаўсюжана і Архімедава шруба. Актыўна сталі выкарыстоўвацца ў гэты час і такарныя станкі з дрэва. Адзінае адрозненне гэтых станкоў ад сучасных — кола з рычагом у верхняй частцы станка, ад якога пры дапамозе раменнай перадачы перадавалася вярчэнне. Першапачаткова ў якасці энергіі выкарыстоўвалася чалавечая сіла, а затым вадзяныя колы. Для пад'няцця і перапампоўкі вады прымяняліся розныя прыстасаванні з поршневымі помпамі, тэхнічныя прынцыпы якіх выкарыстоўваюцца і цяпер. У земляробстве прагрэс адбываўся больш павольна, прычым значна большае развіццё атрымалі прылады працы для ўборкі збожжавых, чым прылады працы для апрацоўкі глебы і сяўння. Асноўным вынаходствам разглядаемага перыяду быў жалезны адбалансаваны серп, форма выгіну якога засталася нязменнай у Еўропе да нашых дзён. Найвялікшым дасягненнем інжынернага майстэрства эпохі элінізму была Александрыйская шматпавярховая вежа каля ўваходу ў гавань егіпецкай Александрыі. Значнага прагрэсу дасягнула і караблебудаўніцтва.

1. Назавіце ваенна-палітычныя і рэлігійныя саюзы грэчаскіх полісаў. У чым іх адрозненне? 2. Якую форму набыло саперніцтва Афінскай і Спартанскай дзяржаў у апошняй трэці V ст. да н.э.? 3. У чым заключалася сутнасць крызісу поліснай сістэмы? 4. Як працякала развіццё Македоніі ў V — першай палове IV ст. да н.э.? 5. Спыніцеся на выніках заваяванняў Аляксандра Македонскага і ахарактарызуйце эліністычныя дзяржавы. 6. Як вы разумееце элінізм? Якія яго храналагічныя рамкі?

Аўтар
ХАНКЕВІЧ В.І.

